ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 29 (2379) 21 ліпеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 200 рублёў.

*НОВЫЯ ТЭХНАЛОГІІ — НОВАЕ МЫСЛЕННЕ*

# ЗАМАК НА ПЯСКУ ЯК СІМВАЛ НАДЗЕІ?




Выраз "замак на пяску" даўно стаў у нашым лексіконе сімвалам нечага нетрывалага і ненадзейнага, нават ілюзорнага. Таму і было так дзіўна даведацца, што дамы, школы, магазіны, пабудаванья з матэрыялу на цэментнапясчанай аснове, больш трывалыя за будынкі з прывычнай керамічнай ці сілікатнай цэглы. У хуткім часе беларусы атрымаюць магчымасць упэўніцца ў гэтым, бо ў Мінску ўступіў у строй новы завод па вытворчасці цэментна-пясчаных блокаў амерыканскай фірмы "BESSER".

Увогуле, прыемна даведацца, што нейкае новае прадпрыемства адкрываецца і працуе, калі з усіх бакоў даводзіцца чуць пра закрыццё, згортванне, спыненне вытворчасці. Яшчэ больш прыемна даведацца, што ў рэспубліцы дзейнічае сумеснае прадпрыемства "Бессер-Беларусь", якое займаецца не набыццём і перапрадажам, але — што сёння вельмі важна для нас — вытворчасцю, прычым вытворчасцю прынцыпова важнай для рэспублікі прадукцыі. Чарнобыльская катастрофа абвастрыла ў Беларусі і без таго вельмі складаную жыллёвую праблему, а блокі, што вырабляюцца на заводах фірмы "BESSER", даюць магчымасць вельмі хутка будаваць прыгожыя, разнастайныя, экалагічна чыстыя і цёплыя дамы. Нельга не заўважыць і тое, што ў парушэнне традыцыі нам паставілі не тэхналагічна ўстарэлае абсталяванне, якое адпрацавала шмат год дзе-небудзь на Захадзе, а завод фірмы, якая з'яўляецца прызнаным лідэрам заходняга рынку абсталявання для будындустрыі, завод, што выпускае сцянавыя блокі і іншыя будаўнічыя канструкцыі сусветнага класа.

Метад вібрапрэсавання, якім ствараюцца гэтыя блокі і цэгла, добра і даўно вядомы ва ўсім свеце і выкарыстоўваецца ў самых розных галінах, напрыклад, пры ўкладцы заходніх шасэ і аўтабанаў, якімі захапляюцца літаральна ўсе, хто хаця б аднойчы праехаў па іх.

— Як гэта ў іх так атрымліваецца? — глядзячы з акна аўтобуса ці машыны на гладкую, без адзінай трэшчыны паверхню, здзіўляемся мы. А вельмі проста гэта атрымліваецца. Па-першае, трэба лепшай якасці дарожнае пакрыццё, а па-другое, перад тым як яго класці, спецыяльная машына пры дапамозе дробнай вібрацыі добра ўтрамбоўвае зямлю, якая становіцца вельмі шчыльнай і не асядае пасля першых жа восеньскіх дажджоў, не старае на паверхні трэшчыны і выбоіны.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## НАРОД МАЕ ТОЕ, ЧАГО ПРАГНУЎ

**Мы часта грашым тэрмінам "гістарычны". Але дзень 10 ліпеня 1994 года, калі быў выбраны першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, інакш не назавеш. З якога боку ні падыдзі, як ні ацэньвай гэтую падзею, але яна ўжо назаўсёды ўпісана ў скрыжалі гісторыі нашай дзяржавы.**

**І яшчэ адна адметнасць. Як ні навязвалі народу старых "ідалаў", як ні ўгаворвалі прагаласаваць за Вячаслава Кебіча, ён упершыню за апошнія 70 з лішнім гадоў праявіў сваю цвёрдую волю і выбраў на прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку, аддаўшы яму ў другім туры галасавання больш за 80 працэнтаў галасоў.**

**Падабаецца гэта каму ці не падабаецца, ды не лічыцца з думкай народа не выпадае. Відаць, у беларусаў свая дарога да храма. Відаць, так прадвызначыў наш гістарычны лёс Усявышні. Не станем чакаць манны нябеснай ад Прэзідэнта, а спадзеючыся на яго мудрасць, шчыра працаваць закасаўшы рукавы на будучыню. Сённяшняга шчаслівага дня ў нас няма.**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**

ЦІ ЗРАЗУМЕЮЦЬ ЯГО НАШЫ БЕЛАРУСЫ

# ВАЧАМІ ПРАЎДЫ

Кожны народ мае ў сваёй гісторыі вялікія дні, памяць аб якіх захоўвае, перадае з пакалення ў пакаленне, якія ўрачыста адзначае. У гэтыя дні ў большай ці меншай ступені вырашаўся лёс таго ці іншага народа. Народ падымаўся на змаганне за свае правы, за волю, справядлівасць, за святыя ідэалы людскасці. І хоць перамога не заўсёды дасягалася, але вялікія высілкі гераічных продкаў былі крыніцай натхнення і сілы для новых пакаленняў, якія працягвалі змаганне, ішлі на барацьбу за святасць ідэалаў, ішлі паміраць — каб толькі жыла Бацькаўшчына.

Беларускі народ на шляху да сваёй незалежнасці таксама перажываў вялікія дні. Так, дзень 25-га Сакавіка 1918 года, у які ўсяму свету наш народ вуснамі Рады БНР абвясціў аб сваім няўхільным жаданні жыць вольна і незалежна, на сваёй зямлі, у сваіх этнаграфічных межах, увайшоў у нашу гісторыю як агульнанацыянальнае свята. І таму мы, беларусы далёкага замежжа, кожны год урачыста адзначаем гэты дзень. Таксама, як урачыста адзначаем і ўгодкі 2-га Усебеларускага кангрэса. На жаль, большасць беларусаў на Бацькаўшчыне нічога не ведаюць пра гэтыя важныя падзеі ў жыцці нашай краіны. Не ведаюць галоўным чынам з-за таго, што гістарычная праўда глыбока была схавана ў казематах КДБ, а замест яе прапагандавалася зручная для захопнікаў інфармацыя-мана.

Ніхто не будзе памятаць і не хоча памятаць, што 76 гадоў таму назад у сталіцы Беларусі прагучалі словы аб яе незалежнасці. Набліжаецца дзень абвяшчэння Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі 27-га ліпеня.

(Заканчэнне на 4-й стар.).



**Нават не верыцца, што гэта чыстае, узнёслае, поўнае радасці свята яшчэ некалькі гадоў назад было пад забаронай. Тых, хто імкнуўся адрадзіць Купалле, чакалі вялікія непрыемнасці. Нам дазвалялі ўводзіць толькі савецкія абрады і традыцыі, сцэнарыі якіх распрацоўваліся ў райкомах партыі.**

**НА ЗДЫМКУ: у Купальскую ноч на Свіслачы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

## "НАРОД ЗРАБІЎ ВЫБАР"

### (Заява Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь)



**10 ліпеня 1994 года народ зрабіў выбар, даверыўшы свой лёс на выбарах першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку. Для мяне асабіста гэта не толькі выражэнне народнага даверу, але і найвялікшая адказнасць перад грамадзянамі Беларусі. Дзякую выбаршчыкам і спадзяюся, што сваёй працай мне ўдасца апраўдаць іх выбар.**

**Разумею, што выбары Прэзідэнта ў краіне -- заснавальніцы ААН і наследніцы ядзернага статуса Савецкага Саюза не могуць пакінуць раўнадушнымі сусветнае супольніцтва. Вось чаму лічу неабходным спыніцца на наступным.**

**У знешняй палітыцы дзейнасць Прэзідэнта будзе абумоўлена перш за ўсё нашымі эканамічнымі інтарэсамі, якія заключаюцца ў аднаўленні эканамічных сувязей з Расіяй і іншымі краінамі СНД, прыцягненні замежных інвестыцый, ператварэнні Беларусі ў паўнапраўнага суб'екта сусветнай эканамічнай сістэмы.**

**Беларусь упершыню ў свеце адмовілася ад магчымасці рэальнага валодання ядзернай зброяй. Пацвярджаю імкненне маёй краіны выканаць узятыя ёю абавязацельствы ў адпаведнасці з раней заключанымі дагаворамі.**

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь будзе стаяць на варце Канстытуцыі і законаў рэспублікі, выступаць гарантам яе дзяржаўнасці і бяспекі.**

**З выбраннем Прэзідэнта не знікаюць усе праблемы, што накапіліся ў краіне за апошні час. Нам дасталася цяжкая спадчына. Вось чаму сваю галоўную задачу бачу ў рэалізацыі той праграмы, за якую 10 ліпеня прагаласаваў народ. Неабходна будзе тэрмінова пачаць работу па стабілізацыі фінансавай сістэмы, прадоўжыць перагаворы з Расіяй па падрыхтоўцы паўнацэннага дагавора аб эканамічным саюзе, магчыма, з улікам палітычных перамен, якія адбыліся на Украіне.**

**На бліжэйшай сесіі Вярхоўнага Савета пасля майго ўступлення на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на разгляд парламента будуць прадстаўлены кандыдатуры на пасаду прэм'ер-міністра і іншых членаў урада, якія патрабуюць па Канстытуцыі ўзгаднення з Вярхоўным Саветам. Працэс рэфармавання ўрада не можа быць ажыццёўлены ў адзін момант. Таму да афіцыйнага назначэння новых людзей на тую ці іншую пасаду ўсе службовыя асобы працягваюць выконваць свае абавязкі і несці за іх персанальную адказнасць перад беларускім народам. Усе заявы аб адстаўках без захавання адпаведнай працэдуры я расцэньваю як палітычныя дэкларацыі аб намерах некаторых асоб.**

**Трэба зразумець, што 11 ліпеня нічога надзвычайнага, здольнага выбіць нас усіх з каляіны не адбылося. Рэспубліка працягвае жыць нармальным жыццём, дзяржаўны апарат і кіраўнікі прадпрыемстваў таксама павінны нармальна выконваць свае функцыі, забяспечваючы належныя дысцыпліну і парадак.**

**Наперадзе -- цяжкая і карпатлівая работа. Выконваць нам яе ўсім разам, а для гэтага ў Рэспубліцы Беларусь неабходна захаваць грамадзянскі мір і згоду. Цяжар пераадолення крызісу ляжа на кожнага з нас, і ноша Прэзідэнта будзе самай нялёгкай. Абяцаю сумленна выканаць свой абавязак перад Беларуссю і яе народам.**

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

12 ліпеня 1994 года.

## ЗАЯВА КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь лічыць, што выбранне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь будзе спрыяць умацаванню дзяржаўнай улады, надасць ёй новую якасць і адновіць страчаны ў вачах народа аўтарытэт.**

**У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь усенародна выбраны Прэзідэнт прымае на сябе адказнасць за становішча спраў у дзяржаве і грамадстве. Пераканаўчая перамога на выбарах -- гэта народны давер Прэзідэнту, які павінен быць апраўданы.**

**Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь заяўляе аб сваёй рашучасці стаяць на варце Канстытуцыі, законаў і міжнародна-прававых актаў, ратыфікаваных Рэспублікай Беларусь. Суд выказвае ўпэўненасць, што Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, выступаючы ў якасці асноўнага гаранта і абаронцы правоў і свабод грамадзяніна і чалавека, будзе свята выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, зробіць усё магчымае для больш хуткай стабілізацыі эканомікі і паляпшэння жыцця народа.**

Намеснік Старшыні
Канстытуцыйнага Суда
В.ЦІХІНЯ.

*ПЕРШЫЯ СТРЭЛЫ*

## ЧАГО ВАРТЫ ТАКІ НАРОД?

**Саюз лібералаў "Маладая Беларусь" выступіў з заявай, у якой даў ацэнку прэзідэнцкім выбарам. "Аляксандр Лукашэнка -- адзіны з кандыдатаў, у праграме якога няма ні слова аб прычынах крызісу, які нас спасціг, -- гаворыцца ў заяве. -- Рэгуляванне цэн, якое ён прапаноўвае, -- гэта "цвёрдыя цэны" для бюракратыі і чорны рынак для народа". На думку маладых лібералаў, народ, які выбірае прэзідэнта, нічога, акрамя таннага папулізму, за душой не маючага, не варты добрага жыцця. "Той, хто аддае перавагу каўбасе замест свабоды, не атрымае ні таго, ні другога", -- гаворыцца ў заяве.**

## БНФ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ НЕ БУДЗЕ

**Наменклатура на Беларусі ўзмацніла свае пазіцыі, заявіў лідэр БНФ З.Пазьняк. Толькі замест адной партакратычнай вярхушкі зараз прыйшла другая, якая збіраецца праводзіць антыдзяржаўную, антыбеларускую палітыку, накіраваную на падрыў нашай незалежнасці. БНФ не будзе супрацоўнічаць з людзьмі, якія зневажаюць нацыянальную сімволіку, Канстытуцыю, збіраюцца ператварыць Беларусь у расійскую калонію. Калі гэтыя людзі будуць і надалей рабіць антыканстытуцыйныя захады -- мы звернемся ў Канстытуцыйны Суд.**

*КУДЫ ДЗЬМЕ ВЕЦЕР*

## ПРАФСАЮЗЫ ПАДТРЫМАЮЦЬ ПРЭЗІДЭНТА

**Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі заклікаў Вярхоўны Савет рэспублікі, усе палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі і рухі канструктыўна будаваць свае адносіны з кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады з мэтай стварэння дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавы. У звароце ФПБ адзначаецца, што "выбары першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь паказалі высокую палітычную актыўнасць выбаршчыкаў, усведамленне імі неабходнасці рашучых перамен у грамадстве, занепакоенасць развалам эканомікі і падзеннем узроўню жыцця... Прэзідэнт будзе мець дзейсную падтрымку прафсаюзаў, якія ўваходзяць у Федэрацыю прафсаюзаў Беларусі, у выпрацоўцы і рэалізацыі новай сацыяльна-эканамічнай палітыкі, накіраванай на стварэнне ўмоў для высокапрадукцыйнай працы, дастойнай яе аплаты, стабілізацыі цэн і барацьбы з інфляцыяй".**

*КАМЕРЦЫЙНЫ ТУРЫЗМ*

## ЛЕПЕЙ ГАНДЛЯВАЦЬ

**Беларускія "турысты", што едуць за мяжу з адной мэтай — выгадна збыць "тавар", увезлі ў краіну больш за адзін мільярд долараў. Гэта перавышае суму даходаў дзяржавы ад экспартнай прамысловасці.**

**Згодна са статыстыкай, каля 1,5 мільёна беларускіх грамадзян пабывалі ў мінулым годзе ў краінах далёкага замежжа, у асноўным у суседняй Польшчы. Дзякуючы такім "турыстычным" вояжам, у дзяржаве сёння існуе цэлая галіна эканомікі, якая эфектыўна працуе і прыносіць грамадзянам значны даход, пераважна ў амерыканскіх доларах. Гэта ў многім дае магчымасць змякчыць вынікі падзення вытворчасці ў рэспубліцы і, у канчатковым выніку, пазбегнуць сацыяльных узрушэнняў у грамадстве. Аднак, на думку спецыялістаў, людзі не нясуць заробленую валюту ў банк, баючыся яе страціць. Часткова з-за недаверу да сваіх банкаў, але ў большай ступені -- з-за страху перад палітыкамі, якія могуць пакласці на гэтыя грошы магутную руку дзяржавы, не лічачыся з інтарэсамі грамадзяніна.**

*СТУПЕНЬ ДАВЕРУ*

## У НАЙВЫШЭЙШАЙ ГРУПЕ РЫЗЫКІ

**Урад Германіі адмовіўся змягчыць умовы прадастаўлення Беларусі звязанага крэдыту на суму 300 мільёнаў нямецкіх марак у рамках крэдытнай лініі, адкрытай у 1992 годзе. Адной з прычын адмовы Германіі прадаставіць ільготы з'яўляецца тое, што Беларусь па сусветнай класіфікацыі ўваходзіць у найвышэйшую групу рызыкі незваротнасці крэдытаў. У якасці прыкладу прадстаўнік нямецкай фірмы заўважыў, што беларускі бок не змог своечасова пагасіць запазычанасць Германіі на 18 мільёнаў нямецкіх марак па імпарту медыкаментаў.**

*СПЯКОТА І БЕЗАДКАЗНАСЦЬ*

## ГАРАЦЬ ЛЯСЫ

**З пачаткам ягаднага і грыбнога сезону рэзка ўзрасла колькасць лясных пажараў, тым больш, што ліпень сёлета неймаверна гарачы.**

**Як паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення дзяржаўнага кантролю аховы і абароны лесу Міністэрства лясной гаспадаркі Іван Мыслейка, з пачатку года згарэла каля 600 гектараў лесу, больш за 600 чалавек аштрафаваны за неасцярожнае абыходжанне з агнём. Штодзённа рэгіструецца звыш 30 падпалаў лесу тымі, хто накіроўваецца туды з кашамі ды вёдрамі.**

**Пастаянна ў "баявой" гатоўнасці знаходзяцца 18 верталётаў і 60 дэсантнікаў, якія закідваюцца ў цяжкадаступныя раёны пры ўзнікненні пажараў.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

МІХАІЛ МАРЫНІЧ прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Беларусі ў Чэхіі, Славакіі і Венгрыі па сумяшчальніцтву. Да гэтага ён быў першым намеснікам старшыні Дзяржаўнага камітэта рэспублікі па знешніх эканамічных сувязях.

МІЖНАРОДНЫЯ назіральнікі адзначылі, што сур'ёзных парушэнняў на выбарах першага Прэзідэнта Беларусі яны не заўважылі. А прадстаўнік бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека Фрэдэрык Куін заявіў, што ніколі ў жыцці не бачыў так добра арганізаваных выбараў.

100 МІЛЬЁНАЎ рублёў выдзеліў Савет Міністраў на будаўніцтва Свята-Уваскрасенскай царквы ў Брэсце. Узводзіцца храм у памяць перамогі Савецкага Саюза ў Вялікай Айчыннай вайне.

СЁЛЕТНЯЙ восенню ў Бабруйску адчыніць свае дзверы вышэйшая навучальная ўстанова -- недзяржаўны інстытут кіравання. За 600 год свайго існавання Бабруйск нарэшце займее першую ВНУ.

*НОВЫЯ СУДНЫ*



**Выпуск новага судна, прызначанага для выкарыстання на ўнутраных водах, у гарадскіх і прыгарадных маршрутах, асвоіў Гомельскі суднабудаўніча-суднарамонтны завод. "Усход" -- такую назву атрымала дзецішча гомельскіх суднабудаўнікоў. Невялікіх памераў і павышанай манеўранасці судна выконваецца ў некалькіх варыянтах: з каютамі на 38 пасажыраў і без кают, прагулачнага тыпу -- на 60. За некалькі месяцаў гамяльчане вырабілі і адгрузілі некалькі суднаў у Караганду, Нар'ян-Мар. Неўзабаве такое судна з'явіцца і на Мінскім моры.**

**НА ЗДЫМКУ: судны гатовы да адпраўкі ў Нар'ян-Мар.**

# ЗАМАК НА ПЯСКУ ЯК СІМВАЛ НАДЗЕІ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Глядзіш, і з'явіцца калі-небудзь на Беларусі сумеснае прадпрыемства, якое, выкарыстоўваючы сучасныя заходнія тэхналогіі, выратуе нашы дарогі, а пакуль што пры дапамозе метада вібрапрэсавання сумеснае прадпрыемства "Бессер-Беларусь" пачало выпускаць трывалыя, як камень, блокі, якія не патрабуюць ні дадатковай афарбоўкі, ні тынкоўкі, маюць стойкі колер і змяншаюць расход раствору пры будоўлі.

І яшчэ адно пытанне, якое непазбежна ўзнікае ў кожнага, каго хвалюе "кватэрная праблема": ці не адбудзецца зноў так, што кошт гэтых матэрыялаў зробіць жыллё, пабудаванае з іх, прывілеяй толькі вельмі заможных сем'яў? Здаецца, што не, бо базавы кошт гэтых блокаў прыкладна такі ж, як і цэглы, замест якой іх выкарыстоўваюць, але ўжо зараз распрацавана сістэма скідак, якая дазволіць пакупніку набываць іх значна танней. Што ж, ва ўмовах, калі хваля індывідуальнага будаўніцтва ў рэспубліцы ідзе на спад, вырабляць новую цэглу, даражэйшую за тую, што ўжо ёсць, не мае сэнсу. Аднак СП "Бессер-Беларусь" збіраецца не толькі вырабляць і рэалізоўваць будаўнічыя матэрыялы. Ужо зараз разам з імі тут можна набыць і праекты, у якіх іх можна выкарыстаць. Збіраюцца будаваць і самі, ужо набыты зямельныя ўчасткі, дзе будуць пабудаваны дамы у адпаведнасці з заходнімі стандартамі -- з кафэ, падземнымі гаражамі, спартыўнымі заламі.

Можна было б іранізаваць з гэтых прыгожых мар у краіне, дзе пад адным дахам часам месцяцца па тры пакаленні, дзе жыллёвая праблема ламае лёсы, і ў літаральным сэнсе зводзіць людзей з розуму. Можна было б, але мне не хочацца гэтага рабіць. Бо калі ёсць хаця б адзін шанц вырашыць гэтае пытанне -- не іранізаваць трэба, а ўсімі сіламі дапамагаць тым, хто ўзяўся за такую нялёгкую справу.

-- Ці не баіцеся вы сёння распачынаць тут новую справу ва ўмовах эканамічнай і палітычнай нестабільнасці, якая склалася зараз на Беларусі? -- запыталася я ў прэзідэнта інвестыцыйна-будаўнічай кампаніі "BESSER--I&I BLOK" беларускага бізнесмена, што жыве ў Канадзе, Джорджа Астроўскага.

-- Я ўвогуле нічога не баюся, да таго ж, любы разумны палітык, любы дзяржаўны дзеяч павінен вырашаць тыя праблемы, якімі зараз заклапочаны мы: забяспечыць людзей жыллём за мінімальныя цэны, выкарыстоўваючы лепшыя будаўнічыя матэрыялы і іншыя прадметы домаўладкавання. Так што наша справа надзейная, бо які б урад ні быў, а жыллё людзям усё роўна патрэбна.

-- Ці няма асцярогі, што выдатныя замежныя тэхналогіі, адпрацаваныя ў многіх краінах, трапіўшы на айчынную глебу, пачнуць даваць збоі?

-- Думаю, што гэтага не адбудзецца, бо ў Беларусі ўжо працуе адзін завод фірмы "Бессер". Ён выпускае якасную прадукцыю, і сама кампанія прызнала, што з васьмі заводаў, якія былі пабудаваны на тэрыторыі былога СССР, беларускі завод працуе лепш за ўсе.

-- Вы нарадзіліся ў Беларусі, але зараз жывяце ў Канадзе...

-- Я выехаў на пастаяннае месца жыхарства ў Канаду ў сакавіку 1991 года, але практычна жыву ў Канадзе не больш, чым тут. Проста я такім чынам вырашыў праблему асабістай бяспекі і атрымаў магчымасць непасрэдна вучыцца 200-гадоваму вопыту амерыканскага бізнесу. А дзейнасць мая працягваецца тут...

-- ...І вы зараз дапамагаеце Беларусі...

-- Перш-наперш я дапамагаю самому сабе, сваім сябрам, сваёй сям'і і сваёй кампаніі. А паколькі Беларусь -- гэта частка маёй душы, то я спадзяюся, што мая дзейнасць дапаможа і ёй.

-- Як вы лічыце, ці надышоў для Беларусі час ствараць буйныя сур'ёзныя сумесныя прадпрыемствы?



-- Якраз учора ў заключным слове на навукова-практычнай канферэнцыі па пытаннях сучаснага фінансавання жыллёвага будаўніцтва я сказаў: менавіта тут, менавіта зараз, літаральна сёння неабходна разгарнуць вялікую працу па фінансаванню і арганізацыі будаўніцтва, таму што заўтра можа быць ужо позна...

-- Чаму? Што вы маеце на ўвазе?

-- Пакуль што яшчэ можна прымусіць дзейнічаць і працаваць былы эканамічны механізм. Вельмі многія былыя манапалісты ў галіне будавання, так званыя домабудаўнічыя камбінаты, сёння прастойваюць. Іх магутнасці загружаны толькі на 1/3 і нават менш, а паколькі тэхналагічны цыкл разлічаны на поўную нагрузку, сабекошт жылля ўзрастае, і прадпрыемствы гэтыя проста загінуць, калі не перабудуюцца на сучасныя тэхналогіі. І калі сёння яшчэ можна выкарыстаць іх магутнасці, іх базу, камунікацыі, склады, транспарт, то заўтра іх раскрадуць, іх з'есць іржа, і яны ператворацца ў мертвыя зоны. Таму дзейнічаць трэба сёння, а лепш было б учора...

-- Вы задаволены тым, як працуюць людзі ў сумесным прадпрыемстве "Бессер-Беларусь"?

-- Нармальныя людзі ў нармальных умовах жывуць і працуюць нармальна. Гэты закон сапраўдны не толькі для Беларусі.

Ведаю, што не трэба заўчасна захапляцца і зачароўвацца нават самай шматабяцаючай справай, але як хочацца верыць, што разам з новымі матэрыяламі і новымі тэхналогіямі да нас прыйдзе і новае мысленне, якое насуперак нашым 70-гадовым традыцыям даказвае, што выгадна быць не тупым выканаўцам некампетэнтных загадаў зверху, а разумным, энергічным і смелым работнікам любога ўзроўню, які ўмее самастойна прымаць рашэнні, ад якіх можа залежаць лёс усёй справы. Хочацца верыць у гэта, бо можна набыць тэхналогіі і новыя матэрыялы, але ні за якія грошы не купіць упэўненасці ў сабе і сваіх сілах.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Джордж АСТРОЎСКІ (у цэнтры), прэзідэнт інвестыцыйна-будаўнічай кампаніі "BESSER I & I BLOCK"; першая прадукцыя завода фірмы "BESSER" у Мінску.**



МОЙ СУБЯСЕДНІК Янка Жучка -- наш суайчыннік, жыхар Бельгіі. Пяцьдзесят гадоў таму юнаком пакінуў ён Беларусь і апынуўся спачатку ў Нямеччыне, а скончыўшы Лювенскі універсітэт, застаўся жыць і працаваць у Бельгіі. Пасля амаль што паўвекавога расстання ён упершыню прыехаў на Радзіму летась на Першы з'езд беларусаў свету. У чэрвені гэтага года Янка Жучка зноў наведаў Мінск, каб паўдзельнічаць у Вялікай Радзе ЗБС "Бацькаўшчына" і міжнароднай навуковай канферэнцыі "Культура беларускага замежжа".

*Янка ЖУЧКА, БЕЛАРУС З БЕЛЬГІІ*

# БРАЦЬ НА СЯБЕ БОЛЬШ ІНІЦЫЯТЫВЫ

**-- Спадар Жучка, мне вельмі прыемна вітаць вас на беларускай зямлі. Раскажыце, калі ласка, трошкі пра сябе.**

-- Жыццё такое доўгае, што не ведаеш, з чаго і пачаць. Пакінуў я Беларусь юнаком у 1944 годзе і трапіў адразу ў Нямеччыну. Там паступіў у беларускую гімназію імя Янкі Купалы, якую скончыў у 1947 годзе. Была мара -- атрымаць вышэйшую адукацыю. У нашым становішчы зрабіць гэта ў Нямеччыне было вельмі складана. Таму я і яшчэ некалькі беларускіх хлопцаў вырашылі ехаць у Англію на заробкі.

**-- Дык вы былі ў ліку той самай знакамітай "дванаццаткі", якая паехала ў Англію і набыла вядомасць дзякуючы бюлетэньчыку, што вы пачалі выдаваць па дарозе і які потым ператварыўся ў часопіс "Наперад"?**

-- Так, у Вялікабрытаніі больш за два гады мы працавалі на вугальных капальнях, актыўна займаліся нацыянальнай справай. У 1950 годзе нас запрасілі на вучобу ў Лювенскі універсітэт у Бельгіі. У той час там вучылася каля 50 беларусаў. Я выбраў тэхнічны факультэт. Спачатку былі цяжкасці з французскай мовай, ды і наогул за тры гады шмат што забылася. Менавіта таму першы год у мяне быў падрыхтоўчы. Пасля заканчэння універсітэта я атрымаў спецыяльнасць інжынера-будаўніка мастоў і дамоў. Некалькі гадоў працаваў на будоўлі стальных і жалезабетонных канструкцый, а пасля 25 гадоў быў галоўным рэдактарам міжнароднага пяцімоўнага часопіса "Сталь". Летась пайшоў на пенсію.

**-- У сярэдзіне 40-х у Нямеччыне існавала беларуская гімназія, была царква імя Ефрасінні Полацкай. У 50-х у Лювенскім універсітэце вучылася шмат беларусаў. Сёння беларускай эміграцыі ў Заходняй Еўропе амаль што не чуваць.**

-- На жаль, гэта факт, але гэта і зразумела. Падчас другой сусветнай вайны ў Еўропу трапіла шмат беларусаў. Былі моцныя суполкі ў Англіі, Францыі, быў арганізаваны Саюз беларусаў і ў Бельгіі. Ён групаваў як працоўных, так і студэнтаў. Вялася нацыянальная праца ў розных галінах. У нас быў студэнцкі хор, якім кіраваў вядомы Мікола Равенскі, быў гурток танцаў. Мы выступалі з канцэртамі ў Лондане, Парыжы, Боне, аб'ездзілі ўсю Бельгію. Ім было яшчэ цяжэй, чым нам. Яны не ведалі мовы, а мы ўжо былі адукаваныя. Але ў 1953--1954 гадах па розных прычынах пачаўся актыўны ад'езд беларусаў у ЗША. Вось і засталося нас у Бельгіі, здаецца, пяцёра выпускнікоў і яшчэ некалькі чалавек з працоўных. На сённяшні дзень, як бачыце, нас мала і вялікай актыўнасці няма. Але тым не менш мы вельмі часта спатыкаемся на розных імпрэзах, абмяркоўваем праблемы, разам святкуем такія нацыянальныя святы, як 25 Сакавіка, іншыя.

**-- Спадар Янка, паўвека вы пражылі ўдалечыні ад Радзімы, але размаўляеце на добрай беларускай мове, адчуваецца ваша любасць да Беларусі. Гэта ўсё нялёгка захаваць, але, падаецца, яшчэ цяжэй перадаць малодшаму пакаленню, калі жывеш у небеларускім асяроддзі. Ці адчуваюць сябе беларусамі вашы дзеці?**

-- Пачуццё беларускасці ў іх, безумоўна, ёсць, але пытанне даволі складанае. Самае цяжкае для эміграцыі -- затрымаць мову. Відавочна, гэта справа колькасці. Мы ж там як кропля ў моры. У Амерыцы, дзе беларусаў шмат і яны ўвесь час трымаюцца разам, размаўляюць на роднай мове, вядома, і дзеці цягнуцца за імі. Асабліва пашчасціла тым, у каго абодва бацькі беларусы. Але нават і ў такім выпадку першае пакаленне яшчэ трымаецца мовы, другое -- напалову, і ўрэшце трэцяе ўсё роўна яе губляе. Важна, каб першая свядомая эміграцыя займалася нацыянальнай справай, а дзеці будуць гэта бачыць, і яна не пройдзе бясследна.

У мяне жонка фламандскага паходжання. Калі я пачаў працаваць, то мусіў часта ад'язджаць. Дзеці падрасталі амаль што без мяне. Яны размаўляюць па-фламандску і па-французску і не размаўляюць добра па-беларуску. Тым не менш, я хачу падкрэсліць, што наш нацыянальны дух дзецям перадаецца. Доўгі час я атрымліваю беларускія газеты, у мяне поўна беларускіх кніг. Я шмат пішу, чытаю, спатыкаюся з беларусамі, якія прыязджаюць у Бельгію. Дзеці ўсё гэта бачаць і разумеюць. У нас добрая сям'я, але часам можа нават жонка тут мяне не зусім разумее. А з дзецьмі мы шмат гаворым пра Беларусь, і калі што на Бацькаўшчыне не так, іх гэта закранае і баліць таксама, як і мне. Два гады таму мой старэйшы сын Юрка прыязджаў у Мінск на курсы беларусаведаў.

**-- Здаецца, вы пісалі аб яго-ных уражаннях ад паездкі ў рэдакцыю.**

-- Тут я хацеў бы заўважыць, што газета "Голас Радзімы" сёння ў адрозненне ад той, што мы атрымлівалі ў былыя гады, вельмі цікавая і змястоўная, і зараз я з вялікай прыемнасцю яе чытаю і дзякую за тое, што вы яе дасылаеце. Гэта адзінае выданне з Радзімы, якое мы атрымліваем рэгулярна. Але вернемся да Юркінага падарожжа ў Беларусь.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

# ВАЧАМІ ПРАЎДЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Ці вывесіць хто-небудзь хоць з аднаго маленькага аконца бел-чырвона-белы сцяг? Ці ўспомніць хто-небудзь у Доме літаратара пра тых, хто ішоў на смерць, каб жыла Бацькаўшчына? Трэба быць вялікім аптымістам, каб верыць у лепшае. І не раз, нехаця, насоўваецца пытанне: ці дараслі мы да сваёй незалежнасці, да самастойнага жыцця? Хто ведае, бо ёсць праўдай, што незалежнасці ніхто нікому задарма не дае. За яе трэба змагацца, праліваць кроў, паміраць. А за сённяшнюю незалежнасць (калі яе можна назваць сапраўднай незалежнасцю) ніхто не змагаўся, не праліваў крыві. Яе падарылі нам, як каравай на талерцы, а цяпер гэты каравай хочуць забраць назад.

Але паміж гэтымі так аддаленымі гадамі была яшчэ адна дата, адзін дзень, пра які нават сёння не дазваляецца ні гаварыць, ні пісаць, бо не атрэслі з яе бруд і смецце, нанесеныя за гады панавання камуністычнага таталітарызму на Беларусі. А ўсё ж такі беларускі народ павінен ведаць і помніць пра гэты дзень, пра падзеі, бо гэта таксама наша гісторыя. Неабходна памятаць, што ў медаля заўжды два бакі. Давайце перавернем медаль і зірнем хоць мімаходам на іншы бок падзей, якія прывялі да абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў 1944 годзе. Тут, безумоўна, я хачу згадаць пра 2-гі Усебеларускі кангрэс, які адбыўся 27 чэрвеня 1944 года ў Менску.

Перш за ўсё трэба зазначыць, што гэты кангрэс не быў нечым выпадковым. Сюды прыбылі дэлегаты з усіх куткоў Беларусі, адтуль, дзе дарогі былі адрэзаны фронтам або партызанамі. Каб больш аб'ектыўна ацаніць ролю 2-га Усебеларускага кангрэса, трэба ўсебакова разгледзець стан грамадскага жыцця на Беларусі, трэба паглядзець праўдзе ў вочы, трэба вярнуцца да тых дзён, калі над нашай зямлёй, як хмара, вісела вайна. Трэба ўспомніць, што напярэдадні вайны беларускі народ быў напалоханы не столькі гітлераўскай акупацыяй, колькі ён калаціўся ад страху перад тэрорам сталінскага НКВД, перад страхам у любы момант быць рэпрэсіраваным, без суда расстраляным або вывезеным на вечную катаргу ў далёкую Сібір ці на Калыму. Людзі загадзя сушылі сухары і кожную ноч чакалі грукату ў дзверы.

Нацярпеўшыся бальшавіцкага тэрору, людзі прасілі ў Бога збаўлення, палёгкі — хто б яе ні прынёс. І палёгка прыйшла. З першымі стрэламі нямецкіх гармат збянтэжаныя бальшавікі без агляд кі ўцякалі на ўсход, баронячы свае ўласныя шкуры, пакінуўшы за сабой усю зброю, якую пхнулі цягнікамі дзень і ноч на захад. Нямецкія танкі, не маючы ніякага адпору, маланкай пракаціліся праз нашу зямлю. Разам з танкамі пракаціўся і новы тэрор. І калі хто-небудзь лічыў нямецкі прыход як часовае збаўленне ад бальшавіцкага тэрору, дык хутка змяніў гэты погляд. Было зусім зразумела, што нямецкія акупанты, як і бальшавіцкія, не клапаціліся аб дабрабыце і волі беларускага народа.

Апроч гэтага, польскія асаднікі, якія самі вярнуліся з не так даўніх уцёкаў з Літвы і Латвіі, апанавалі не толькі мясцовыя, але раённыя і абласныя пасады і мелі той самы намер: вынішчыць як найхутчэй адукаваны беларускі элемент. І колькі ж загінула лепшых беларускіх сыноў у першыя тыдні вайны ад польскіх брэхаў-даносаў, а нямецкіх куль і да сённяшняга дня ніхто не падлічыў, ніхто не ведае, а мо не хоча ведаць, каб не абразіць сваіх суседзяў.

Але больш свядомай беларускай інтэлігенцыі было відавочна, што нешта трэба рабіць, ды хутка, каб ратаваць свой народ ад далейшага вынішчэння. Дзеля гэтага і пачалі арганізоўвацца беларускія мясцовыя цэнтры, якія крыху пазней набылі рысы Беларускай Народнай Самапомачы (БНС). Каб утрымаць сякі-такі парадак штодзённага жыцця, была арганізавана беларуская паліцыя. Яе задача была не з лёгкіх. Перш-наперш трэба было пераняць у свае рукі не толькі мясцовыя, але і гарадскія ўлады, якія загадзя былі захоплены польскімі асаднікамі або спецыяльна прысланымі агентамі польскай АК.

Найлепшы прыклад, аб якім ніколі не можна забыцца, як у нашым Палачанскім сельсавеце (Маладзечанскі раён) у першыя дні прыходу немцаў было арыштавана 15 асоб. Настаўнік і настаўніца з вёскі Груздава за тое, што вучылі беларускую мову, Ніна Усціновіч з вёскі Аборак. Яе праступак — працавала ў ЗАГСе. З вёскі Палінцы быў арыштаваны вясковы паштар. Яго праступак — разносячы пісьмы, рабіў падпіску на газету "Звязда". Былі арышты ў вёсках Літва і Кабылкі.

Але хіба найбольш брутальным і зверскім быў арышт майго сябра з 7-га класа Палачанскай школы Гены Паўлоўскага. Ягоная віна: пасля школьных заняткаў ён наладжваў у суседніх вёсках так званыя "літаратурныя вечары" (не раз з маёй дапамогай) і чытаў моладзі творы Купалы і Коласа "Курган", "Сымон-музыка", "Новая зямля" і іншыя. Усіх арыштаваных трымалі ў Палачанскай школе. Гена, знаючы ўваход і выхад з кожнага пакоя, уцёк ноччу праз падвал за раку ў лес. Назаўтра немцы арыштавалі яго бацьку і маці, а маленькую сястру Люсю паслалі ў лес з запіскай: калі не вернецца, дык расстраляюць і бацьку, і матку. І ён, як сапраўдны герой, вярнуўся. На трэці дзень пасля арышту іх расстралялі — нейкіх сто метраў ад Палачанскай чыгуначнай станцыі.

Ніхто не паставіў там ні помніка, ні крыжа. Мала хто аб гэтым гаворыць. Толькі злосны вецер у восеньскую ноч галосіць без перастанку, напамінаючы ўсім аб жахлівых здзеках з невінаватых ні ў чым людзей. І я, кожны раз адведваючы Беларусь, палажу кветкі на недагледжаную магілу свайго школьнага сябра і на развітанне прамоўлю шэптам: "Спі пад курганом герояў"...

Такія злачынствы, як у вёсцы Палачаны, не былі ізаляванымі. Аб іх можна было чуць у Крэве, Ашмянах, Маладзечне, Вілейцы. Асабліва пацярпела беларуская інтэлігенцыя ад польскіх асаднікаў-рэнегатаў у Валожынскім раёне. Вось што аб такіх злачынствах піша польскі пісьменнік, гісторык Юзэф Мацкевіч у сваёй кніжцы "Не тшэба глосьно мувіць" ("Не трэба голасна гаварыць". -- **А.Г.**), апублікаванай у бібліятэцы "Культуры", выданне першае ў Францыі 1969 года: "У Стоўбцах на аснове даносу з боку палякаў немцы арыштавалі 19 беларусаў, між імі Ю.Сабалеўскага, дэлегата на сойм, В.Чабарытэвіча і іншых. У Валожыне ахвярай польскага даносу паў інж. К.Касяк і яго намеснік А.Сівец і іншыя. Разам 22 асобы. Польская партызанка напала ў 1942 годзе на Жодзішкі. Вымардавала не толькі немцаў, але ўвесь беларускі актыў. Гэты напад быў падрыхтаваны палякамі, якія служылі ў беларускай паліцыі. Яны ў большай меры мардавалі беларусаў. Вялікія страты, як вынік даносаў і правакацый, панеслі беларусы Міра і суседніх ваколіц. Уся абслуга нямецкай камендатуры і ўсе перакладчыкі былі мясцовыя палякі, пераважна з былых маёнткаў. Яны зрабілі і перадалі немцам спіс усіх беларусаў, якія былі абвінавачаныя "за камунізм". Немцы расстрэльвалі гэтых беларусаў без суда".

Вось што адбывалася ў першыя тыдні вайны на Беларусі, вось з кім наша сапраўдная паліцыя змагалася і якая была патрэба бараніць мірнае сялянства не толькі ад польскіх, але і ад сталінскіх партызанскіх бандаў, якія цяпер развяліся па нашых лясох, як грыбы пасля дажджу.

Нягледзячы на ваенную завіруху, кіраўнікі нацыянальных аб'яднанняў павінны былі клапаціцца пра нашу будучыню, пра моладзь, якая з'яўляецца найбольш актыўнай часткай не толькі нашай, а любой нацыі. Яе хвалююць усе магчымыя праблемы. У шукаючай душы маладога пакалення нараджаюцца праекты грамадскіх рэформаў, якія не цікавяць у вялікай меры старэйшае грамадства. Каб падтрымаць беларускую моладзь, каб захаваць будучыню нашай нацыі, быў арганізаваны Саюз Беларускай Моладзі (СБМ) з галоўным штабам у Менску і спецыяльнай школай для падрыхтоўкі яе кіраўнікоў у Слоніме (Альбертын). Тут якраз і прышчаплялася моладзі любоў да нацыянальных традыцыяў, павага да агульначалавечых ідэалаў. І сягоння можна смела сказаць, што СБМ — гэта была кузня, дзе гартавалася беларуская моладзь. СБМ кінула зерне, якое дало падмурак сённяшняму беларускаму нацыянальнаму адраджэнню. Калі шчыра прызнацца, хто з нас ведаў у тыя гады, як выглядае беларускі нацыянальны сцяг? Хто з нас ведаў ці бачыў нашу "Пагоню"? Беларуская моладзь, якая жыла да 1941 года ва ўсходняй Беларусі, нічога не ведала, апроч сярпа і молата, а на нас у Заходняй Беларусі са сцен польскіх школ пазіраў з-пад ілба вусаты "дзядэк Пілсудскі" з польскай эмблемай "бялэго орла" — сваяка двухгаловага арла.

Дзякуючы нашым тагачасным нацыянальным дзеячам, былі адкрыты не толькі пачатковыя школы, але і гімназіі, семінарыі і гандлёва-адміністрацыйныя школы, дзе не раз, хоць і на паўразбураным ад бомбаў будынку, з гонарам вісеў бел-чырвона-белы сцяг. Тут першы раз мы ўбачылі славутую "Пагоню". Тут навучылі нас любові да свайго краю, мовы, літаратуры, мастацтва. Тут упершыню мы даведаліся аб нашай мінуўшчыне, аб нашай часта трагічнай гісторыі. І дарма маскоўскія найміты закідвалі, а то і сёння закідваюць, нібыта ў такіх школах нас вучылі любові да нямецкіх акупантаў. Пашаны да нямецкіх акупантаў, як і да бальшавіцкіх, не было...

**А.ГІЛЯРЧЫК.**

Англія.

Паважаныя спадары!

У адным з нумароў вашай газеты я прачытаў невялічкі артыкул аб дзейнасці Алеся Алехніка з далёкай Аўстраліі, і мне вельмі захацелася, каб аб гэтым чалавеку даведалася як мага больш беларусаў не толькі на Бацькаўшчыне, але і за яе межамі. А сказаць пра гэтага сапраўднага і шчырага беларуса мне ёсць што.

У сучасны момант Алесь з'яўляецца генеральным сакратаром Асацыяцыі беларусаў Аўстраліі і сябрам

## ХАЧУ ВЫКАЗАЦЬ ПАДЗЯКУ

Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Гэта чалавек, якому лёс Беларусі неабыякавы, бо ўсё сваё жыццё на чужыне прысвяціў ён адраджэнню свядомасці сярод беларускіх эмігрантаў Аўстраліі, якіх там аказалася дзесяткі тысяч. Ім былі арганізаваны згуртаванні беларусаў Аўстраліі, якія рабілі і робяць вялікую працу сярод суродзічаў па захаванню мовы, культуры, беларускасці. Ім здабывалася для Беларусі маральная і дыпламатычная дапамога ад іншых народаў свету на розных канферэнцыях, у якіх браў удзел Алесь Алехнік. Алесю неабыякавае жыццё на Бацькаўшчыне, ён шчыра цікавіцца ўсім. Менавіта ён і яго сябры (Лідзія Хіцяк, сакратар згуртавання) першымі ў замежжы адгукнуліся на вынікі чарнобыльскага выбуху. Яны пачалі аказваць дапамогу ахвярам Чарнобыля, першымі арганізавалі аздараўленне і адпачынак дзетак з атручанай зоны.

У гэтым годзе Алесь і Ліда адгукнуліся на просьбу аказаць дапамогу старым, інвалідам і дзеткам-беларусам на Літве і прыслалі пачак рэчаў для гэтых людзей. Хай яны ведаюць, што тут, у нас, яны маюць сяброў, якія шлюць ім вялікае дзякуй за шчырае і шчодрае сэрца.

У адным са сваіх лістоў А.Алехнік піша, што калі не дапаможа беларус беларусу ў такі цяжкі час, у які мы зараз жывем, то ні маральнай, ні матэрыяльнай дапамогі ад іншых нам чакаць не трэба, бо ў сапраўдным адраджэнні нашай Бацькаўшчыны павінны быць зацікаўлены ўсе грамадзяне Беларусі і нашы суайчыннікі за мяжой. Алесь заклапочаны зараз тым, каб мы, настаўнікі, укладалі ў галаў нашым дзеткам нацыянальную свядомасць, самапашану, ідэі адраджэння і пашану да нашай маці-Беларусі, што мы і стараемся рабіць.

На Першым з'ездзе беларусаў свету ў Мінску шмат гаварылася аб падтрымцы адзін аднаго, падтрымцы старых і нямоглых, дзетак — будучыні Радзімы, але толькі Алехнік (які, дарэчы, не прысутнічаў на з'ездзе) з сябрамі ўсё гэта ўспрыняў сэрцам і адгукнуўся канкрэтнай дапамогай.

Мне вельмі хочацца ад сябе асабіста і ад тых людзей, якія атрымалі дапамогу з Аўстраліі, сказаць праз вашу газету вялікае дзякуй Алехніку і пажадаць яму і яго сябрам добрага здароўя і плёну ў працы.

З павагай

**Паўла САЎЧАНКА,**
**настаўнік Віленскай беларускай гімназіі.**

# БРАЦЬ НА СЯБЕ БОЛЬШ ІНІЦЫЯТЫВЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Тады перад ад'ездам я яго трошкі падрыхтаваў у беларускай мове, каб ён мог разумець настаўнікаў, мог размаўляць са сваякамі. І ён меў поспех! Найбольш цяжка было з вымаўленнем, бо, на жаль, да гэтага часу няма касэт, няма добрых падручнікаў, слоўнікаў. Але ёсць галоўнае — жаданне вучыцца, і ён працягвае гэта рабіць. Адсюль можна зрабіць высновы, што хоць нашы дзеці і не гавораць добра па-беларуску, але пачуццё маюць беларускае.

-- **За апошнія некалькі гадоў шмат што змянілася ў нас, але шмат што і ўскладнілася. Што, на вашу думку, мы можам зрабіць разам, каб стварыць сапраўдную нацыянальную супольнасць!**

— Вельмі добра, што сёння ў нас ёсць магчымасць прыязджаць сюды, спатыкацца з рознымі людзьмі, размаўляць і абмяркоўваць нашы агульныя праблемы. Трэба, каб людзі ведалі, чым і як жыла беларуская эміграцыя. З нашага боку мы павінны сабраць і аб'яднаць нашы гістарычныя і культурныя здабыткі, унесці іх у нашу агульную скарбонку. Гэта павінна вывучацца, бо да нядаўняга часу тут была яшчэ белая пляма. Так што канферэнцыі, накшталт "Культуры беларускага замежжа", вельмі карысныя.

З вашага ж боку, мне падаецца, трэба браць на сябе больш ініцыятывы, каб Беларусь стала вядомай у свеце, каб нешта лепшае пераняць у іншых краінах, каб палепшыць нарэшце сваё жыццё. У Бельгіі я часта спатыкаюся з рознымі беларускімі дэлегацыямі. І што я заўважаю? Часам такое ўражанне, што вось прыехалі, паглядзелі, паслухалі і назад. У іх няма ніякіх ініцыятыў, зацікаўленасці, імкнення зрабіць нешта лепш. Гэта мая асабістая думка. Другі важны пункт, які б я хацеў яшчэ ўзгадаць, -- гэта няведанне беларускімі грамадзянамі замежных моў. Адсюль усякія цяжкасці, а часам і непаразуменні. Чамусьці ў вас не надаецца пэўнай увагі гэтай справе, а яна вельмі важная. Няма да сённяшняга дня ў Бельгіі і беларускага прадстаўніцтва, і гэта зноў не спрыяе наладжванню кантактаў, супрацоўніцтва.

-- **Спадар Жучка, вы ўдзельнічалі ў Першым з'ездзе беларусаў свету, ёсць дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце". Ці адчуваеце вы апеку Бацькаўшчыны!**

-- Так, адчуваю. Вядома, ёсць дэфекты, і мы будзем дыскутаваць наконт іх. Але я вельмі добра разумею і ўсе тутэйшыя цяжкасці, недахоп сродкаў. Я адчуваю, якая напружаная атмасфера ў грамадстве. Але я зноў хачу падкрэсліць, што самае галоўнае сёння -- наша магчымасць і здольнасць прыехаць у Беларусь, падзяліцца думкамі. Выйсця з крызісу трэба шукаць разам.

**Гутарку вяла**
**Таіса БАНДАРЭНКА.**

89

Смяротнае пакаранне адбылося ў Вільні ў лютым 1839 года. Асуджаны сустрэў смерць мужна. На галаве яго была блакітная шапачка, што падаравала Эмілія. У ходзе следства выявілася існаванне "Саюза польскага народа", якім кіраваў Канарскі. Тайная арганізацыя мела сваю касу, друкарню, шырокае разгалінаванне і змагалася за ўзнаўленне дэмакратычна рэфармаванай Рэчы Паспалітай.

**АД ШЛЯХЕЦКАГА ДА РАЗНАЧЫНСКАГА РЭВАЛЮЦЫЯНІЗМУ.** У ходзе следства ўсплыло імя Франца Савіча, студэнта Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Стала вядомым, што ён узначальваў студэнцкае патаемнае "Дэмакратычнае таварыства", якое дзейнічала з 1836 года, а пазней улілося ў арганізацыю Канарскага. У 1838 годзе Савіч быў арыштаваны, а ў 1839-м сасланы на Каўказ у дзеючую армію. Але неўзабаве туды паляцела дэпеша з загадам вярнуць важнага злачынцу ў Вільню для дадатковага следства. Адказ для царскіх чыноўнікаў быў нечаканым: радавы Грузінскага лінейнага 13-га батальёна ўтапіўся. Паведамлялася таксама, што на беразе ракі Церак каля Кізляра была знойдзена яго вопратка і перадсмяротная развітальная запіска. На самай жа справе Савіч уцёк. Яго злавілі, але ён выдаў сябе за бяздомнага валацугу. Потым давялося зноў несці ваенную службу і зноў уцякаць. Здабыўшы дакументы на імя доктара Гельгега, Савіч адкрыў медыцынскую практыку ў мястэчку Яніпаль Жытомірскага павета. Там і памёр ад халеры. Яго магіла знаходзіцца ў Астражку, на Украіне.

90

Чаму ж царскія сатрапы лічылі Франца Савіча такім небяспечным злачынцам, што хацелі судзіць двойчы? Справа ў тым, што жандары знайшлі дадатковыя матэрыялы, якія поўнасцю выкрывалі палітычную праграму Савіча і яго "Дэмакратычнага таварыства". Студэнты Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі апярэджвалі сваіх папярэднікаў -- філарэтаў і філаматаў. Новая плеяда моладзі змагалася за права кожнай нацыі на палітычную самастойнасць, за саюз народаў Расіі ў барацьбе супраць самаўладдзя і прыгону шляхам народнага паўстання. Такія ідэі былі намнога небяспечней для шматнацыянальнай імперыі, чым тыя, якіх прытрымліваліся дзекабрысты. А таму, зразумела, Медыка-хірургічная акадэмія была адразу ж зачынена.

Жорсткая расправа над Канарскім і яго паслядоўнікамі трохі прыцішыла грамадскі рух на Літве-Беларусі. Але пад уздзеяннем Галіцыйскага паўстання 1846 года ў Аўстрыі ён узнімаецца зноў і на гэты раз незалежна ад эмісараў польскай эміграцыі. А буржуазна-дэмакратычныя рэвалюцыі 1848 года ў Венгрыі і Францыі толькі падлілі масла ў агонь. У 1846--1849 гадах на Літве-Беларусі і Жамойці дзейнічаў тайны "Саюз вольных братоў" з цэнтрам у Вільні і філіямі ў Мінску, Гродне, Лідзе, Ашмянах, Навагрудку, Слоніме і іншых гарадах і мястэчках краю. Арганізацыя аб'ядноўвала пераважна вучнёўскую моладзь. На чале яе стаялі браты Франц і Аляксандр Далеўскія, а

91

пазней далучыўся Сігізмунд Серакоўскі, афіцэр віленскага вайсковага гарнізона.

Абмяркоўваліся планы нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення народаў Расіі. З 1848 года пачалася падрыхтоўка да паўстання, вялася агітацыя сярод сялян, гараджан і вайскоўцаў. У фальварку Бараўляны, што пад Мінскам, была наладжана вытворчасць патронаў і зброі. Моладзь натхняла ідэя сусветнай рэвалюцыі. Паўстанне мела мэту адцягнуць вайсковыя сілы Расіі ад задушэння венгерскай рэвалюцыі і пратрымацца да прыходу на Літву-Беларусь мадзьярскага рэвалюцыйнага войска на чале з польскім генералам Дэмбінскім, вядомым героем 1831 года. На перамовы з ім паехаў Серакоўскі, але па дарозе быў арыштаваны. Напаўшы на след "Саюза вольных братоў", царскі ўрад разграміў яго.

Рэвалюцыйныя настроі на Літве-Беларусі сведчаць пра тое, што царская палітыка русіфікацыі не ліквідавала тут "польскі" дух незалежнасці. Калі прыгонніцкая арыстакратыя пасля 1831 года адыходзіла ад палітычнага лідэрства, дык яе месца займалі прадстаўнікі збяднелай шляхты, аднадворцаў, духавенства, якія вучыліся або працавалі ў якасці чыноўнікаў, выкладчыкаў, святароў. У адпаведнасці з рускай традыцыяй іх называлі разначынцамі. Пазней шэрагі рэвалюцыянераў папаўняліся за кошт сялян і мяшчан.

Тайныя арганізацыі 30-х і 40-х гадоў клалі пачатак рэвалюцыйна-дэмакратычнаму руху на

92

Літве-Беларусі. Ад шляхецкай рэвалюцыйнасці гэты рух адрозніваўся тым, што ў барацьбе супраць самаўладдзя і прыгону ён меў сваёй мэтай народнае (сялянскае) паўстанне і абараняў інтарэсы не вышэйшых саслоўяў, а кожнага чалавека. Рэвалюцыйны дэмакратызм склаўся на Літве-Беларусі раней, чым ва ўнутраных губернях Расіі. Таму паспрыялі ідэі заходнееўрапейскіх рэвалюцый і польскай нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

**ПАРАСТКІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ САМАСВЯДОМАСЦІ.** Новая рэвалюцыйная ідэалогія літоўска-беларускіх патрыётаў уключала ў сябе права народаў на нацыянальную незалежнасць. Першым неабходнасць такога права ўсвядоміў Франц Савіч, сын святара з Валяціч, што каля Пінска, вядомы кіраўнік "Дэмакратычнага таварыства". Рускія рэвалюцыйныя дэмакраты прыйшлі да такой думкі пазней. Літоўска-беларускія разначынцы цягнуліся да сваіх аднадумцаў у Польшчы і з яе незалежнасцю, дэмакратычнымі пераўтварэннямі звязвалі лёс сваёй Айчыны. Але яны ўжо не былі "перакананымі палякамі". У іх душах пачалі варушыцца пачуцці беларускай нацыянальнай самасвядомасці і (як гэта ні парадаксальна, але трэба прызнаць) не без дапамогі царскай палітыкі русіфікацыі. Расійскі ўрад усё ж некалькі паслабіў польскі духоўны прэсінг на Літве-Беларусі, а замяніць яго на рускі яшчэ не паспеў. Гэта і дазволіла асобным прадстаўнікам мясцовай інтэлігенцыі больш крытычна, больш рэальна і больш самастойна ацаніць становішча свайго краю.

Захар ШЫБЕКА

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ**

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

93

## 8. У БАРАЦЬБЕ ЗА БЕЛАРУСКІЯ ДУШЫ

Змаганне Расіі за падпарадкаванне Літвы-Беларусі ў нейкай ступені нагадвала рэлігійныя войны. Пад сцягам праваслаўя ішла русіфікацыя. Гэтаму супрацьстаяў каталіцызм, але і ён вёў да паланізацыі. Якая ж у такім разе рэлігія з'яўлялася для беларусаў выратавальнай ці нацыянальнай?

### 8.1. Аслабленне каталіцызму

**АДНОСІНЫ ЎРАДА ДА "ПОЛЬСКАЙ" ВЕРЫ.** Рымска-каталіцкая ў параўнанні з дзяржаўнай праваслаўнай царквой мела шэраг абмежаванняў. Католікам рымскага абраду забаранялася адкрываць новыя прыходы з касцёламі, калі ў гэтых прыходах не набіралася 100 хат або 400 вернікаў, і вышэйшае духавенства не магло мець зносін з Рымам непасрэдна, а толькі праз царскі ўрад. Літоўска-беларускія землі дзяліліся паміж Магілёўскай, Мінскай, Віленскай і Ковенскай епархіямі. Іх узначальвалі біскупы.Яны ж падпарадкоўваліся мітрапаліту, які меў рэзідэнцыю ў Пецярбургу. Вышэйшым органам кіравання католікаў была ўрадавая ўстанова --Рымска-каталіцкая калегія.

Пасля паўстання 1831 года пачаліся рэпрэсіі. Ксяндзам забаранялася без дазволу адлучацца са сваіх прыходаў, рымска-каталіцкая царква пераводзілася на дзяржаўнае ўтрыманне, а яе

94

маёнткі канфіскоўваліся. За дапамогу паўстанцам 191 кляштар з 304-х быў ліквідаваны. Звычайна іх ператваралі ў прыходскія касцёлы. У семінарыях дазвалялася выкладаць толькі на лацінскай або на рускай мове. Але гэта былі дробязі ў параўнанні з тым, што Мікалай I задумаў далучыць амаль мільённых уніятаў (грэка-католікаў) да праваслаўных.

**РОЛЯ УНІЯЦТВА.** Безумоўна, што уніяцкая царква была створана (1596) не без ціску рымска-каталіцкага кліру і магнатаў Рэчы Паспалітай дзеля паланізацыі праваслаўнага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага і дзеля прадухілення распаўсюджвання пратэстантызму. Тым не менш, гэта ўсё ж быў кампраміс, а не поўнае акаталічванне. Уніяты падпарадкоўваліся законам каталіцкай царквы і рымскаму папу, але захоўвалі ў набажэнстве праваслаўныя абрады, старабалгарскую і беларускую мовы. Уніяцкая царква дэманстравала палітычную адданасць сваіх падапечных Рэчы Паспалітай. Пасля разбораў гэтай дзяржавы уніяцкая царква ператварылася ў ідэалагічную зброю руска-польскага супрацьстаяння. Царскі ўрад імкнуўся перацягнуць уніяцкую большасць насельніцтва на свой бок, каб замацавацца на літоўска-беларускіх землях. Рымска-каталіцкая апазіцыя старалася ўтрымаць уніятаў у сферы свайго ўплыву.

**БАРАЦЬБА УНІЯЦКАГА КЛІРУ ЗА САМАСТОЙНАСЦЬ.** Спачатку ініцыятыва была на баку Кацярыны, але пры Паўле і Аляксандры уніяты былі кінуты на волю лёсу і падпалі пад поўную залежнасць ад рыма-католікаў. Пра-

95

васлаўныя абрады замяняліся рымска-каталіцкімі, уводзіліся малітоўнікі на польскай мове. Уніяцкай царкве пагражала зліццё з рымска-каталіцкай. Архібіскуп Іраклій Лісоўскі пачаў біць трывогу. Ён выпрасіў у Аляксандра I некаторыя ўступкі на карысць уніяцкай царквы. Рымска-каталіцкая калегія была падзелена на два дэпартаменты, адзін з якіх кіраваў справамі рыма-католікаў, а другі – уніятамі (грэка-католікамі). Лісоўскі атрымаў дастойнасць мітрапаліта, а разам з тым і права пасвячаць уніяцкіх біскупаў. Ён павёў барацьбу з тымі манахамі-базыльянамі, якія схіляліся да рымска-каталіцызму, і ўсяляк падымаў ролю белага уніяцкага духавенства, якое абараняла самастойнасць сваёй царквы. Справу Лісоўскага працягвалі яго пераемнікі. У набажэнства пакрысе вярталіся праваслаўныя абрады, святарам забаранялася галіцца.

У 1817 годзе уніяцкім мітрапалітам стаў Іясафат Булгак. Хоць ён і паходзіў з базыльянскага ордэна манахаў, але быў паслядоўным прыхільнікам ідэі незалежнасці уніятаў. Пры ім наступ на базыльянцаў яшчэ больш узмацніўся. Уніяцкая царква раздзіралася ўнутранай барацьбой. Выхаваныя ў польскай культуры базыльяне бачылі выратаванне уніі і Айчыны ў аднаўленай Рэчы Паспалітай. Многія з іх гатовы былі зліцца з рыма-католікамі, абы толькі не падпадаць пад рускі ўплыў. Блізкае да народнай культуры белае духавенства мірылася з царскай уладай, але яго барацьба супраць рымска-каталіцкай экспансіі параджала пачуцці нацыянальнай незалежнасці, якія нічога агульнага з

96

пакорлівасцю Расіі не мелі. Шэрагі гэтых барацьбітоў папаўняліся за кошт гадаванцаў Полацкай уніяцкай семінарыі. У 20-х гадах XIX стагоддзя на Літве-Беларусі складваўся пласт святароў, якія не хацелі падпарадкоўвацца польскаму ўплыву і яшчэ не ведалі ўплыву рускага, але былі выключна адданымі свайму народу. Гэта вядомы ўжо нам прафесар Міхаіл Баброўскі (пазней уніяцкі святар), Васіль Лужынскі, Антон Зубко і інш. Аднак барацьба з рымска-каталіцызмам ва ўмовх царскай Расіі з непазбежнасцю вяла іх да збліжэння з праваслаўем. І многія з незалежнікаў потым ператварыліся ў змагароў за вяртанне ў праваслаўную веру.

**ЛІНІЯ СЯМАШКІ.** Мікалай I умела выкарыстаў натуральнае імкненне уніятаў да самастойнасці, каб ізаляваць іх ад уплыву рымска-каталіцкай царквы і паступова падвесці да аб'яднання з праваслаўнымі з дапамогай прымусу і ашуканства. Верным памочнікам цара ў гэтай справе стаў уніяцкі святар Язэп Сямашка, украінец па паходжанню. У 1827 годзе ён падае царскаму ўраду дакладную запіску "Аб правядзенні рэформ уніяцкай царквы для злучэння яе з праваслаўнай". Прапановы асэсара уніяцкага дэпартамента прыйшліся даспадобы цару і адразу ж пачалі праводзіцца ў жыццё.

Ужо ў пачатку наступнага года уніяцкая царква была аддзелена ад рымска-каталіцкай. Стваралася самастойная Грэка-уніяцкая калегія. З чатырох уніяцкіх епархій (Берасцейскай, Віленскай, Полацкай, Луцкай) пакідалася дзве – Беларуская з цэнтрам у Полацку і Літоўская з цэнтрам у Жыровіцах (пазней у Вільні).

АДКРЫВАЮЧЫ СВЕТ Анатоля КІРВЕЛЯ

# ПЕРАСЦЕРАЖЭННЕ

Кожны сапраўдны творца шукае сваю сцяжынку. І гэта тычыцца не толькі формы выказвання думак, формы перадачы сюжэта. Пошук шляхоў з'яўляецца і спробай унутранага асэнсавання навакольнай рэчаіснасці ў межах традыцыйнага пісьма. У памкненні пісаць кароткую лаканічную прозу пецярбургскі беларус Анатоль Кірвель не арыгінальны. Пэўныя ўрокі ўсёй сучаснай беларускай літаратуры далі ў гэтым накірунку Янка Брыль і Фёдар Янкоўскі. Зважаючы на іх вопыт, беручы тое-сёе за навуку і ў паэтаў, усё ж Анатоль Кірвель піша выразна паэтычную прозу па-свойму. Новая кніга нашага земляка з Санкт-Пецярбурга -- "Урбанія" (Мінск, "Мастацкая літаратура", 1994 г.) -- мае наступны падзагаловак: "Вершы і мініяцюры ў прозе".

У прадмове да кнігі Яўген Лецка заўважыў адну істотную акалічнасць: "Дзеля таго каб пісьменнік адбыўся як нацыянальны мастак у поўным сэнсе гэтага слова, мала паслугоўвацца словамі беларускай мовы. Трэба яшчэ быць арганічна ўрослым у нацыянальную традыцыю, ведаць і адчуваць родную культуру, яе традыцыі, гісторыю, тое, чым жыў і жыве твой народ, што складае яго глыбінную сутнасць і непаўторна праяўляецца ў кожным асобным чалавеку. Можна навучыцца мове, але не псіхалогіі, не тэмпераменту, не спосабу мыслення і светаўспрымання. Дзеля гэтага проста трэба нарадзіцца і быць беларусам. І тады нацыянальнае будзе не чымсьці знешнім, запраграмаваным, дзеля аздобы "паўтыканым" у тэкст, а выяўленнем самой сутнасці душы мастака, якая нязмушана і арганічна самавыяўляецца ва ўсім, што яе трывожыць і хвалюе. Менавіта да такіх пісьменнікаў, на маю думку, і належыць Анатоль Кірвель".

І хаця, пачынаючы з назвы, гарадскія матывы пераважаюць у кнізе нашага земляка, "Урбанія" ўспрымаецца як кніга выключна беларуская з беларускім святлом на кожнай яе старонцы.

Найперш А.Кірвель адпраўляецца ў дарогу-доследа традыцыйнага беларускага матыва "Бог няроўна дзеліць" (такая назва ў першага раздзела кнігі). Аўтар на самым пачатку задаецца пытаннем: "Сапраўды, няроўна! Аднаму дае грошы, другому -- розум, а трэцяму -- нічога.

Хто ж з іх самы шчаслівы?"

Усебеларускае чаканне шчасця "аднекуль", самапапярэджванне, што мы "малы народ", разбэсціла, нівеліравала нас як нацыю. Адсюль і многія агульнанацыянальныя беды, многія ўсенародныя трагедыі. Маючы, на мой суб'ектыўны погляд, гэтую выснову за кантэкст, А.Кірвель тактоўна, спакваля, але разам з тым і адкрыта, смела агаляе бяду: "Галоднага чалавека сыта накармілі, далі яму цёплае, -- лісінае -- футра і сказалі:

"Цяпер рабі, што хочаш".

Чалавек падумаў-падумаў і... стаў чакаць, што ж яму яшчэ дадуць" (мініяцюра "Воля").

Аўтар "Урбаніі" трывожна разважае пра беларуса і яго талерантнасць, шукае карэнні нашай нацыянальнай годнасці, імкнецца вызначыць прыярытэты вартаснага, першаснага ў жыцці чалавека як асобы. Часам пісьменнік, захоплены жаданнем разбіць псеўдакаштоўнасці блізкага мінулага, трапляе ў пастку дэкларатыўнасці, голай публіцыстычнасці ("Будучым генсекам!", "Плюралізм", "Ланцугі"). Такія мініяцюры цікавыя, арыгінальныя, але яны пазбаўлены мастацкасці, выпадаюць за межы агульнага зместу "Урбаніі".

Адна з гераінь кнігі -- вера... Вера чалавека ў Бога. Вера ў самога сябе. Вера як асэнсаванае спадзяванне на лепшую будучыню. У мініяцюры "Шляхі" А.Кірвель скарыстоўвае агульнавядомыя разважанні, а вось ісціны адкрывае сам, свае і чамусьці блізкія чытачу, наўздзіў унутраныя ісціны: "Людзі, каторыя жывуць доўга, паспяваюць прыйсці да Бога -- самі па сабе.

Тыя, хто паміраюць у росквіце сіл -- нечакана альбо недарэчна, -- мяркуюць наперад, што жыццё доўгае, спяшацца няма куды, і да Бога яны паспеюць. Але Ён сам сустракае іх і -- магчыма -- даруе ім няўвагу: на тое Ён і Бог!

А хто знявечаны альбо хворы -- невылечна ці ад нараджэння -- хапаюцца за Бога першымі -- каб і іх не абмінула Божая ласка.

Ды маючы ў душы зусім іншы клопат -- пра саміх сябе! -- Бога так і не спасцігаюць -- няздатныя!

Чым карацейшы шлях -- тым больш ён няісцінны, гэтак?

Пэўне што! Бога спасцігаюць не як навуку, а як сваю душу -- без спеху і ў адзіноце".

Дарэчы, спасціжэння "без спеху і ў адзіноце" патрабуе і ўся кніга Анатоля Кірвеля. Чытаючы "Урбанію", бачыш, адчуваеш аўтара, стараешся выбудаваць мост да яго душы, разгледзець на тым баку ракі яго сэрца, яго патаемныя думкі. І ў руху прачытання заўважаеш, як з таго аўтарскага боку выкладваецца-сцелецца гэтаксама мост. Цяпер ужо ў наш -- чытацкі -- бок.

"Пасадзіў чалавек зярнятка..." -- і ў гэтым раздзеле кнігі не застаецца па-за ўвагай пісьменніка духоўны свет чалавека. Адштурхоўваючыся ад рэчаіснасці, міфалагізуючы знаёмыя нам у паўсядзённым побыце сітуацыі ("На зямлі ляжаў чалавек. Яго ўсе білі. Ужо не са злосці, а проста так, каб ён не падняўся. Каб быў ляжачым", "Пачухала малпа тое месца, адкуль у яе хвост расце, і падумала: "Ну, бараду-то мне не прыдбаць, парода не тая, а вось акуляры...") А.Кірвель прымушае азірнуцца, агледзецца, а як жа мы?.. Ці заўсёды чэсныя, сумленныя, справядлівыя? Ці не баімся натоўпу? Ці здольныя за праўду пайсці супраціў масы, часам ачмурэлай і нездольнай нешта разумна асэнсоўваць?..

Часам мініяцюры вырастаюць у кароткія, лаканічныя апавяданні ("Працэсія", "Здрада", "Два пацалункі на дзень"). А.Кірвель па-майстэрску выладжвае іх сюжэты. У перадачы дзеі адсякае ўсё лішняе. А толькі пасля другога прачытання пачынаеш разумець, што пісьменнік асцярожны ў абагульненні вобраза сучасніка. Ды і абагульняючы, працуючы згодна з мастацкім законам, аўтар "Урбаніі" апякуецца галоўным прадметам яго пісьменніцкага доследу -- чалавечай душой. Клопат аб тым праяўляецца ці не ў кожным творы.

Анатоль Кірвель -- чалавек сталага ўзросту. У літаратуры пачынаў сваю працу шмат гадоў назад. Пасля быў перапынак, быў час асэнсавання пэўных жыццёвых каштоўнасцяў. Цяпер вось -- сур'ёзнае вяртанне сур'ёзнага літаратара. Будзем чакаць, што следам за "Урбаніяй" прыйдуць хутка і новыя цікавыя кнігі Анатоля Кірвеля. Думаецца, яны арганічна ўвойдуць у кантэкст сучаснай беларускай літаратуры, бо ў творах нашага санкт-пецярбургскага суродзіча гучыць і такі лейтматыў, як перасцеражэнне ўсіх нас у найстрашнейшай небяспецы, што чакае народ, каторы губляе сваю духоўнасць і сваю свядомасць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*Віктар ВУЯЧЫЧ*

*І ЭСТРАДНАЯ ПЕСНЯ*



**Восенню мінулага года ў тэатры оперы і балеты Беларусі прайшоў бенефіс Віктара Вуячыча. Гэта было нешта ўражваючае, сапраўднае свята песні. У госці да спевака прыехалі вядомыя выканаўцы Эдзіта П'еха з Санкт-Пецярбурга, Лайма Вайкуле і кампазітар Райманд Паўлс з Рыгі і многія іншыя, хто ішоў з ім нялёгкай зоркавай дарогай эстрады.**

**І вось у ліпені народнаму артысту Рэспублікі Беларусь Віктару Вуячычу споўнілася 60 гадоў. Пік яго папулярнасці прыйшоўся на 60--70-я гады. Захапляючыя водгукі прэсы, запрашэнні на "Голубые огоньки", якія праводзіла Цэнтральнае тэлебачанне, удзел ва ўрачыстых канцэртах, пастаянныя гастролі. Цудоўны барытон, прывабная знешнасць, уменне знайсці кантакт з гледачом адыгралі сваю ролю. А пачатак паклаў Усесаюзны конкурс эстраднай песні, дзе нікому невядомы дагэтуль спявак з Мінска стаў лаўрэатам першай прэміі. Пазней былі перамогі на конкурсах "Залаты Арфей" у Балгарыі, на Міжнародным фестывалі сучаснай эстраднай песні ў Токіо. І канцэрты, канцэрты... Хто не памятае такіх цудоўных песень, як "Памяць сэрца", "Стаяць на рэйдзе нашы брыганціны", "Верасы" і многія іншыя. Іх спяваў Вуячыч, яны гучаць і сёння.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**

ДУШОЙ АДДАНЫ БЕЛАРУСІ

# ЯГО ДРУГАЯ РАДЗІМА

Прафесара Сумскага педінстытута Паўла Ахрыменку добра ведаюць як вучонага-філолага і пісьменніка не толькі на Украіне, але і ў Беларусі. Ён доўгі час (1950--1972) працаваў у Гомельскім педінстытуце і універсітэце, пакінуў прыкметны след як вучоны і літаратар.

Павел Ахрыменка прыехаў на Беларусь з Украіны, хутка авалодаў беларускай мовай, актыўна ўзяўся за даследаванне беларускай літаратуры і фальклору, у прыватнасці іх сувязей з украінскай славесна-мастацкай культурай. У пачатку 1958 года ён абараніў у Беларускім універсітэце доктарскую дысертацыю, атрымаў званне прафесара і ўзначаліў кафедру літаратуры ў Гомельскім педінстытуце. У 1966 годзе Паўла Ахрыменку прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Так ён стаў беларускім вучоным і літаратарам, маючы ўжо пэўны здабытак і на ніве ўкраінскага літаратуразнаўства.

На другі год працы ў Беларусі П.Ахрыменка выдаў брашуру "Т.Р.Шаўчэнка і беларуская літаратура", падрыхтаваў для зборніка "Янка Купала" (1952) вялікі артыкул "Янка Купала і Т.Р.Шаўчэнка", а для "Вучоных запісак" Гомельскага педінстытута -- "Максім Багдановіч і ўкраінская літаратура", для часопіса "Полымя" -- "Беларуская песня на Украіне". З гэтага часу ён сістэматычна друкаваўся ў беларускіх і ўкраінскіх выданнях, папулярызаваў украінскую літаратуру на Беларусі, а беларускую -- на Украіне.

Прафесар П.Ахрыменка адкрыў многа новых фактаў беларуска-ўкраінскага літаратурна-культрунага яднання. Аб гэтым сведчаць такія яго манаграфіі, як "Фальклорна-літаратурныя сувязі ўкраінскага і беларускага народаў" (1959), "Шляхамі братання" (Про україньсько-білоруські театрально-драматургічні зв'язки)" (1968), "Тарас Шаўчэнка і Беларусь" (1969), "Летапіс братэрства. Аб беларуска-ўкраінскіх фальклорных літаратурных і тэатральных сувязях" (1973), а таксама шэраг артыкулаў і брашур.

П.Ахрыменка шчыра палюбіў беларускую народнапаэтычную творчасць. Ён падрыхтаваў да выдання такія зборнікі фальклору, як "Беларускія прыказкі і прымаўкі" (1956, сааўтар М.Буцько), "Песні Азершчынскага хору" (1959), "Беларускія казкі, запісаныя ад Пятра Гулевіча" (1963) і інш. Даследаванню беларускага фальклору П.Ахрыменка прысвяціў брашуру "Беларускія загадкі, прыказкі і прымаўкі" (1961), кніжку "Беларускія песні і казкі" (1965) і многія артыкулы ў спецыяльных выданнях. Асобна варта адзначыць яго працу "Беларуская літаратура і фальклор" (1962), у якой упершыню шырока ставіцца пытанне пра нацыянальна-фальклорныя вытокі беларускай літаратуры.

Нямала прац Паўла Ахрыменкі прысвечана праблемам гісторыі беларускай літаратуры, у прыватнасці, артыкулы і кніжкі пра беларускую старажытную літаратуру. Так, у артыкуле "Да пытання аб беларускай літаратуры XVIII стагоддзя" і брашуры "Белорусская литература второй половины XVII--XVIII веков" упершыню разглядаюцца многія творы, што маюць дачыненне да літаратуры менавіта гэтага перыяду. Гэтыя новыя матэрыялы ўвайшлі ў навуковы ўжытак, у тым ліку ўключаны ў такія выданні, як акадэмічная "Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры", т. 1, сааўтарам якой з'яўляецца П.Ахрыменка, і вучэбны дапаможнік "Старажытная беларуская літаратура", напісаны ім у сааўтарстве з М.Ларчанкам.



Наогул, прафесар Ахрыменка падрыхтаваў для філалагічных факультэтаў нямала вучэбных дапаможнікаў па літаратуры і фальклору. У час працы ў Беларусі ён выдаў, акрамя названых вышэй кніг, такія дапаможнікі, як "Беларуская народнапаэтыная творчасць", "Беларуская вуснапаэтычная творчасць" і некаторыя іншыя.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ПРАРОК І ПЯСНЯР

*"... К табе, о Божа,*
*І я ў дзень гэты просьбу шлю:*
*Хай Беларусь, мая старонка,*
*Уваскрэсне к вольнаму жыццю!"*

**Янка КУПАЛА.**

7 ліпеня чароўныя гукі беларускіх мелодый і песень напоўнілі сталічны парк імя Янкі Купалы. Народ прыйшоў да свайго песняра, каб разам адзначыць 112-я ўгодкі з дня яго нараджэння.

Прыгожыя кветкі леглі да падножжа помніка паэту. Свята адкрыла дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Жанна Дапкюнас. У сваім выступленні яна адзначыла сучаснасць і сугучнасць твораў беларускага песняра падзеям, якія перажывае наша родная краіна. І перш-наперш гэта купалаўская канцэпцыя незалежнай Беларусі, праблема актуальная і цяпер, калі Рэспубліка Беларусь шукае шляхі самастойнага дзяржаўнага існавання. Вось яна стрыжнёвая ідэя Купалавай канцэпцыі: "Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу". У канцы выступлення дырэктар адзначыла, што няма чаго баяцца беларусізацыі, быццам не будзе месца ў Беларусі іншым нацыянальнасцям. Яшчэ Купала пісаў: "... даўно ўжо прыйшлі да пераканання, што свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус падняволены".

Шчыра, аддана пра Купалу як Прарока і Песняра, які горача верыў у ідэю нацыянальнага адраджэння і запальваў гэтай ідэяй і іншых, гаварылі вядомыя беларускія паэты Сяргей Грахоўскі, Мікола Аўрамчык, Вольга Іпатава, Сяргей Законнікаў, Людміла Паўлікава, Леанід Дранько-Майсюк. Гучалі вершы Янкі Купалы ў выкананні артыста Белдзяржфілармоніі Мікалая Казініна. У тым ліку і знакаміты верш паэта "Перад будучыняй":

**Стаім мы перад будучыняй нашай**
**І ўсё варожым, сочым ейны ход...**
**Ці ўскрэснем мы душою, упаўшы,**
**звяўшы,**
**Каб выйсці ў свет, як нейкі**
**здольны род...**

Нібыта сказана сёння. І мы, як Купала ў 20-я гады, узіраемся ў дзень заўтрашні з верай у незалежную, шчаслівую Беларусь.

Ва ўнісон вершавым радкам паэта прагучаў урывак з трагікамедыі "Тутэйшыя" ў выкананні артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Купалы Зоі Белахвосцік, Аляксандра Лабуша, Віктара Манаева. "Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас ні надзялялі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй, -- гаворыць Купала вуснамі свайго героя. -- Каб гэтага не было, мы павінны растаптаць, знішчожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе. Мы павінны душу нашу народную выявіць у сваім "я", у сваёй самабытнасці і смела сягнуць на сваё неадымнае права самім распараджацца гэтым сваім "я".

Напрыканцы свята выступілі самабытныя фальклорныя ансамблі "Вяселле" і "Мінскі гармонік".

А на ўзвышэнні ў глыбокай задуменнасці стаяў бронзавы Янка Купала, і на яго вуснах нібы застылі словы: "Я ў долю народа свайго ўглядаюся...". Усю, прызначаную беларускаму народу чашу пакут паэт выпіў да дна. Але галоўная сіла Купалавай творчасці -- гэта любоў да людзей, і таму яна адарае нас верай і надзеяй у будучыню, у духоўныя і творчыя сілы народа. "Не падаючы духам, мы павінны ісці праз жыццё... і моцна трымаць сцяг змагання за сваё вызваленне, за незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны Беларусі".

**Ларыса АСТАПКЕВІЧ,**
**загадчык аддзела Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.**



**НА ЗДЫМКУ:** выступае Жанна Дапкюнас, дырэктар музея Янкі Купалы.

**Фота Пятра ЖОЎЦІКАВА.**

# "ТЫ, НАРОДЗЕ, ВЯЛІКІ І ЧЭСНЫ..."

Хаця ў цэлым -- падкрэслім гэта яшчэ раз -- падобныя выказванні Каліноўскага справакаваны навязлівымі выступленнямі славянафільскай і правай прэсы, з'яўляюцца прамым адказам на іх (як пэўную гістарычную паралель нагадаем верш Я. Купалы "Усе саюзы..." і іншыя яго выступленні супраць Саланевіча і падобных самазваных "апекуноў" беларускага народа).

У крытыцы царскіх парадкаў, рэформы 1861 года, рэкрутчыны, чыноўніцтва і г.д. Пісьмо-I вельмі блізкае да "Мужыцкай праўды". Гэтаксама ж унія трактуецца тут як спрадвечная рэлігія беларусаў. І разам з тым куды шырэй пададзены ў гэтым дакуменце погляды на пастаноўку школьнай справы, выказана надзвычай важнае не толькі для педагогікі, але і ў агульнапалітычным сэнсе патрабаванне аб навучанні ў школах на беларускай і літоўскай мовах, "як народ таго хоча". Сатырычная знішчальная ацэнка царскага чыноўніцтва дапаўняецца не менш з'едлівай крытыкай школьных настаўнікаў, якія прысылаліся царскім урадам у край не столькі з асветнымі, колькі з русіфікатарскімі мэтамі.

Далей у творы выказваецца незадавальненне пасіўнай, сузіральнай пазіцыяй еўрапейскіх дзяржаў адносна Польшчы і Літвы-Беларусі, недастатковай падтрымкай паўстанцаў з боку Еўропы: "Доўга палякі ждалі памоцы з заграніцы, народы чужаземныя крычалі многа і да гэтай пары нічога для нас не зрабілі; кажуць, што яны не маюць ніякай патрэбы сваей у польскім дзеле, каб на маскаля ісці за нас ваяваці". Праводзіцца думка аб маральна-гістарычнай адказнасці Еўропы за разбойніцкія падзелы Рэчы Паспалітай і наступныя ахвяры і страты народаў, аб'яднаных некалі гэтым дзяржаўным арганізмам.

У канцы Пісьма-I выказваюцца цікавыя і глыбокія меркаванні аб стратэгіі і тактыцы народных рухаў і паўстанняў. Напрыклад, палажэнне аб своечасовасці ўзброенага выступлення, аб уменні выбраць для паўстання найбольш спрыяльны момант. Па сутнасці перад намі ўпершыню сфармуляваныя на беларускай мове асновы тэорыі народна-рэвалюцыйнай, вызваленчай барацьбы: "І так калі паўстанне зроблена пад добрую пару, узрастае і ажыўляе народ, -- не ў час, марнуе сілы кожнага, аслабляе ў прастоце духа да й разводзіць страх і няверу ў дзела наша, у моц Божу". Таму рэвалюцыйная арганізацыя (і ў прыватнасці, "ронд польскі") павінна рабіць "не штучныя завірухі, но, паняўшы духа народнага, яго патрэбы і волю, падхватываць да й разумна застаўляць палкі народныя, а, развіваючы непадатлівасць у народных нескан-чоных бунтах, ставіць апору маскоўскаму ў нас панаванню". Зноў даецца высокая ацэнка здольнасці любых Каліноўскаму сялян да энергічнага згуртаванага дзеяння, да рэвалюцыйнай барацьбы: "Работа тут сярмяжна, для таго каб была скутэчна, павінна быць так шчыра і проста, як тое сэрца, што б'е пад сярмягай, як той розум мужыцкі, што не перабірае, калі рабіць трэба". Вялікае значэнне надаецца своечасоваму назапашванню зброі, аб гэтым павінны падумаць "ронд польскі" і яго чыноўнікі, а патрэбныя на гэта грошы Каліноўскі абяцае даставіць (пэўныя сумы сапраўды былі ў гэты час у прадстаўніка Літоўскага аддзела за мяжою Б. Длускага). У канцы Каліноўскі, як бы насуперак ранейшым уласным мудрым перасцярогам, заклікае народ да неадкладнага выступлення: "Ты аднак, Народзе, не дажыдайся, да з чым можаш ідзі ваяваці за сваго Бога, за сваё права, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчыну". Наступная фраза выкліча ў сённяшняга чытача пярэчанні: "Для цябе ўсё можна: нож, сякера, атрута..." Тут ёсць нешта ад небяспечнай уседазволенасці, ад праславутага "мэта апраўдвае сродкі". Каліноўскі тлумачыць гэтую ўседазволенасць поўнай бяспраўнасцю народа. Пабудаваны цікавы сілагізм: "Для цябе ўсё можна... бо табе нічога не можна". Адказнасць за вынікі Каліноўскі ўскладае на народы Еўропы, якія не дапамаглі своечасова беларускім і польскім паўстанцам у іх святой барацьбе: "А калі народы заграічныя, з дзіва разінуўшы рот, скажуць "шалёныя", ты, народзе вялікі і чэсны, праўдай ім адкажы, што яны таму прычынай, што гэта на іх сумленне цяжкім грэхам ляжа". Гэтыя высокія словы, роўныя якім цяжка адшукаць і ва ўсёй досыць багатай беларускай публіцыстыцы наступных дзесяцігоддзяў, добра высвечваюць памеры асобы і таленту Каліноўскага. Разам з тым сучасны чытач, узброены горкім вопытам гісторыі і сённяшняй вакханаліі міжнароднага тэрарызму, аддасць належнае рэвалюцыйнаму тэмпераменту нашага выдатнага змагара-публіцыста, але наўрад ці прыме ў поўным памеры некаторыя яго імператывы.

Другая частка "Пісьмаў..." (так бы мовіць, Пісьмо-II) -- адзіны вядомы верш Каліноўскага, адрасаваны найперш (цяпер гэта лічыцца ўстаноўленым) яго нявесце -- Марыі Ямант, а праз яе і ўсяму "мужыцкаму народу".

Невялікі гэты твор складаецца ўсяго з пяці чатырохрадкоўяў, знітаваных парнымі рыфмамі. Характэрныя для польскай паэзіі жаночыя рыфмы часам чаргуюцца з энергічнымі мужчынскімі. У адным выпадку рыфма вельмі прыблізная (памаліся -- адазвуся).

Магчыма, гэта ўплыў сярэднявечнай сілабічнай паэзіі, дзе падобная рыфмоўка цалкам дапускалася. У мове таксама заўважаюцца архаічныя формы: "...Гдзе ж **ся падзела** шчасце і ясна доля Твая..." Увогуле верш не вылучаецца бляскам формы і версіфікатарскай тэхнікі, хутчэй ён шурпаты, але за ім непадробныя пачуцці, высокія думкі і магутная асоба паэта-рэвалюцыянера. Усё гэта прымушае ўспомніць характэрныя словы М.Гумілёва аб "высоком косноязычье", якое даруецца паэту. Каліноўскі нагадвае ў гэтых адносінах Дзяржавіна і іншых выдатных рускіх паэтаў дапушкінскай пары, калі яшчэ не склалася канчаткова руская літаратурная мова новага часу.

Верш раскрывае здзіўляючую цэльнасць асобы рэвалюцыянера -- трапяткія, пяшчотныя радкі, звернутыя да любай, арганічна спалучаюцца ў ім з набатнымі зваротамі да роднага народа, горыч паражэння, развітанне з каханай змяняецца ўпэўненасцю ў лепшую будучыню не для сябе (паэт не мае на гэты конт ніякіх ілюзій), а для тых абяздоленых, за шчасце якіх змагар аддае жыццё. Зрэшты -- і для сябе таксама. Рэвалюцыянеру і мысліцелю, які ўяўляў жыццё людзей на зямлі як непарыўную, поўную сэнсу і значэння змену-чараду пакаленняў, неабыякавая пасмяротная памяць аб ім ("...І часам спамяні пра Яську тваго..."). Цікавыя багаборніцкія матывы верша. Паэт, па ўсім відаць, досыць сур'ёзна ставіцца да рэлігіі, і тым не менш "праўда" для яго (мы разумеем, што гэта тая ж "мужыцкая праўда", праўда грамадскай справядлівасці) вышэй за неба і асабістае шчасце. Гэта тое, за што можна паспрачацца з самім госпадам Богам:

**Калі за нашу праўду Бог**
**нас стаў караці**
**Дай у прадвечнага саду**
**вялеў прападаці,**
**То мы прападзем марна,**
**но праўды не кінем,**
**Хутчэй Неба і шчасце,**
**як праўду абмінем.**

Зусім відавочна, што гэта пазіцыя, аналагічная пазіцыі Т.Шаўчэнкі ў славутым "Запавеце" ("...а да тога Я не знаю Бога"). Інакш вырашаў гэтае няпростае пытанне Ф.Дастаеўскі, які адзначыў у прыватным пісьме 1854 года пасля вызвалення з катаргі: "...если бы кто мне доказал, что Христос вне истины, и **действительно** было бы, что истина вне Христа, то мне лучше хотелось бы оставаться со Христом, нежели с истиной". Вопыт чалавецтва сведчыць, што ісціна шматаблічная, у рэшце рэшт важныя і павучальныя яе нястомныя сумленныя пошукі. Сваімі зваротамі да фундаментальных асноў чалавечага жыцця, мужнымі пошукамі грамадскай праўды-справядлівасці дарагі нам і Каліноўскі.

Нарэшце, трэці дакумент, які ўваходзіць у "Пісьмы з-пад шыбеніцы", -- кароткі развітальны зварот да народа, які пачынаецца словамі: "Браты мае, мужыкі родныя! З-пад шубеніцы (так у Каліноўскага) маскоўскай прыходзіць мне да Вас пісаці, і можа раз астатні" і завяршаецца подпісам "Твой слуга Яська гаспадар з пад Вільні" (зноў пацвярджаецца, што гэты псеўданім трэба адносіць найперш, калі не выключна, да Каліноўскага). Менавіта гэтая частка "Пісьмаў..." (Пісьмо-III) дзякуючы шчаслівай знаходцы Уладзіміра Казберука вядома нам цяпер у аўтографе, і параўнанне аўтографа з тэкстам, апублікаваным А.Гілерам, паказала, што Гілер усё-такі правіў аўтарскі тэкст. Тым не менш праўка гэтая асновы дакумента не закранула.

Перад намі лірычна-публіцыстычны твор, прасякнуты шчырымі пачуццямі развітання і адказнасці перад народам за яго будучыню. Каліноўскі здолеў знайсці надзвычай высокія, адпаведныя выпадку словы: "Горка пакінуць зямельку радную і Цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, но не жаль згінуць за тваю праўду.

Прыймі, Народзе, па шчырасці мае слова прадсмертнае, бо яно якбы з таго свету, толька для дабра тваго напісана". Нельга не адзначыць высокае літаратурнае майстэрства -- кожнае слова на месцы, усё знітавана ўнутраным пругкім рытмам. Па сутнасці, мы маем справу з вершам у прозе. Як і ў вершы "Марыська мая...", тут нічога не прыдумана, поўнае зліццё лірычнага героя з аўтарам.

Афарыстычна гучыць у апошнім звароце Каліноўскага высокая асветніцкая думка, правераная ўсім шматвяковым вопытам чалавецтва: "Нямаш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і науку". Ісціна гэтая справядлівая для ўсіх часоў і народаў, у Каліноўскага мае глыбока асобасны характар. Выхадзец з асяроддзя правінцыяльнага дробнамаянтковага дваранства (наўрад ці ў сям'і было так ужо зашмат кніг), дзякуючы ўласнай энергіі і розуму ён такі паспеў добра ўхапіць навукі і ў багатай сваімі асветнымі традыцыямі Свіслацкай гімназіі (пасля стала павятовым вучылішчам), і ў Пецярбургскім універсітэце, які ён бліскуча скончыў са званнем кандыдата правоў. Перад ім быў таксама прыклад старэйшага брата Віктара, апантанага даследчыка мінуўшчыны роднага краю. Як высвятляецца, браты былі вялікімі кніжнікамі, нягледзячы на пастаянныя нястачы і хранічны недахоп сродкаў, сабралі ў Пецярбургу досыць багатую бібліятэку. Навука, адукацыя, на думку Каліноўскага, -- аснова дабрабыту нацыі, гуманных адносін у грамадстве, не адкідаў ён у гэтым сэнсе і значэння рэлігіі: "Тагды ён (чалавек. -- **Г.К.**) толька можа быць у радзе, жыці ў дастатках і тагды толька, паманіўшыся па праўдзе Богу, заслужыць Неба, бо, збагаціўшы наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу шчыра палюбіць". Тут у нямногіх словах закладзены вялікі сэнс. Гэта як бы канспект маральна-філасофскага трактата, на жаль, так і не напісанага Каліноўскім. Але перад намі развітальныя словы не проста філосафа-асветніка, а асветніка-рэвалюцыянера, асветніка-палітыка. Пытанні асветы непарыўна ўвязваюцца з палітыкай: "праўдзіва наука", сцвярджае "Яська-гаспадар", ніяк не стасуецца з тагачаснай няволяй царскай, "няволяй маскоўскай". Адсюль заклік-запавет усімі сіламі падтрымаць "братоў з-пад Варшавы", калі яны зноў узнімуцца "за праўду і свабоду". І ўжо не проста да "дзецюкоў", а да беларускага "народа" як адметнай сацыяльна-этнічай цэласці звяртаецца Каліноўскі -- "цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права (у Гілера тут дабаўлена яшчэ -- "за сваю веру"), за сваю зямлю радную". Нарэшце, заключныя словы: "Бо я табе з-пад шубеніцы кажу, Народзе, што тагды толька зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе". Гэтыя словы маюць сэнс не толькі канкрэтна-гістарычны (у часы Каліноўскага галоўным ворагам быў расійскі царызм), але і больш шырокі, агульны. Па сваёй універсальнай сутнасці яны актуальныя і сёння, калі незалежная Беларусь шукае сваё месца сярод народаў Еўропы і свету, выпрацоўвае асновы сваёй самастойнай нацыянальнай палітыкі -- жыць з усімі суседзямі, з усімі народамі ў згодзе і каб ніколі нікога не было **над** беларусамі, **над** родным народам. Такі запавет Каліноўскага.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 28.**

*СПАДЧЫНА*



**Нельга не здзівіцца прыгажосці карункавых сурвэтак, макрамэ і накідак, якія робіць брэстаўчанка Раіса КУХАРЧУК (на здымку). Але ж яшчэ больш захапляешся яе працай, калі даведваешся, што таленавітая жанчына -- інвалід з дзяцінства. Вельмі рана навучылася яна гэтай тонкай жаночай рабоце і, нават калі працавала на Брэсцкім электрамеханічным заводзе, не забывалася пра любімую справу, якая давала ёй душэўныя сілы.**

**Многія работы Раісы Кухарчук экспанаваліся на абласных і рэспубліканскіх выставах.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

# ЯГО ДРУГАЯ РАДЗІМА

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Як член Саюза пісьменнікаў Беларусі, П.Ахрыменка сістэматычна выступаў у газеце "Літаратура і мастацтва" і іншых з артыкуламі і рэцэнзіямі на новыя творы беларускай літаратуры. Ён ахвотна падтрымліваў маладыя таленты, уносіў пэўны ўклад у падрыхтоўку не толькі педагагічных, але і літаратурна-творчых кадраў Беларусі.

У 1972 годзе П.Ахрыменку папрасілі вярнуцца на Украіну, у Сумскі педінстытут, дзе ён пачынаў сваю навукова-педагагічную дзейнасць. Тут ён працуе і цяпер, але ніколі не забывае пра Беларусь, якую лічыць сваёй другой радзімай, дзе сустрэў ветлівы прыём. П.Ахрыменка і цяпер працягвае распрацоўваць пытанні беларускай літаратуры і вуснапаэтычнай творчасці. Не выпадкова ён з'яўляецца членам Рэспубліканскага камітэта ўкраіністаў і членам Міжнароднага камітэта беларусістаў. Вакол яго згуртоўваюцца сумскія беларусы, утвараюць своеасаблівую беларускую грамаду. Яна дапамагае прафесару-беларусісту арганізоўваць навуковыя канферэнцыі па вывучэнню беларуска-ўкраінскіх літаратурных і фальклорных сувязей, пашыраць сярод украінцаў веды пра беларускую мову, літаратуру і культуру.

Дык пажадаем жа прафесару Паўлу Паўлавічу Ахрыменку, якому 16 ліпеня спаўняецца 75 гадоў, новых поспехаў у працы, моцнага здароўя і сіл для ўмацавання брацкіх адносін паміж украінскім і беларускім народамі!

**Валерый ПЯТРЫЧЫЦ.**

Украіна,
г. Сумы.

**ТАПАНІМІЧНЫЯ ЭЦЮДЫ**

# ДЗЕ КАРАНІ НАЗВЫ ТВАЙГО ПАСЕЛІШЧА?

## ЛАГОЙСК

Лагойск (Логожьск, Логожеск) -- адно са старажытнейшых паселішчаў на тэрыторыі Беларусі, заснаванае ў дагістарычны перыяд. Да XI стагоддзя ніякіх звестак пра яго няма. Упершыню Логожьск згадваецца ў летапісе пад 1078 годам у сувязі з паходам князя Усяслава: "...Всеславе пожегъ землю і повоева до Лукомля і до Логожьска на Дрьюжьскъ".

Логожьск, Логойск або Логойско вядомы як вартавая асада ў княстве Полацкім (пазней у павеце Мінскім), як дзядзінец старажытнага роду Тышкаў (потым Тышкевічаў). Сёння гэта гарадскі пасёлак, раённы цэнтр Мінскай вобласці на рацэ Гайна.

Паходжанне назвы звязваецца са словам лог (В.А. Жучкевич. Краткий топонимический словарь Белоруссии). Сапраўды, пасёлак размешчаны ў лагчыне, акаймаванай узвышшам, таму, на першы погляд, версія здаецца праўдзівай і доказнай. Але ж вернемся да старажытнай формы Логожьск, Логожеск (тут корань Логож-, а не Лог-). Апрача таго, назва заканчваецца на -ск, як і многія іншыя беларускія назвы тыпу Бабруйск, Мінск, Пінск, Віцебск, Полацк, Слуцк, Чачэрск, Шацк. Амаль усе яны суадносяцца з назвамі рэк, на якіх размешчаны зараз або размяшчаліся раней. Дык можа і Лагойск не з'яўляецца выключэннем з гэтага рада?

І сапраўды, у некалькіх кіламетрах ад Лагойска ёсць вёска Лагаза (колішні фальварак Логоза) на рэчцы Лагазінка. Ад кораня Логоз- зусім заканамерная і старажытная форма Логожьск (Логожеск), і сучасная спрошчаная -- Лагойск. Ствараецца ўражанне, што назва ракі другасная ў адносінах да назвы паселішча. На самай справе было інакш. Першапачаткова Лагаза была назвай ракі. Але пасля таго, як яна перайшла на паселішча, рака стала ўспрымацца больш дробным, другарадным аб'ектам у параўнанні з населеным пунктам, і яе назвалі Лагазінка. У назватворчай практыцы такіх прыкладаў шмат (напрыклад, Бабруйск ад назвы ракі Бабруя, якая пазней стала называцца Бабруйка). Доказам прыналежнасці назвы Лагаза да класа гідронімаў служыць наяўнасць некалькіх рачных назваў з каранёвай часткай -лагаж- /-лагаз- на ўсходнеславянскай тэрыторыі: Лагажанка -- прыток Ігуменкі (сучасная Чэрвенка), Лагазінка -- прыток Гайны на Смаленшчыне, Лагозва -- прыток Шчары (басейн Нёмана).

Тое, што паселішча і рака раздзелены некаторай адлегласцю, не можа быць падставай для сумнення наконт правільнасці вытлумачэння назвы. Праходзілі стагоддзі, горад неаднаразова гарэў і па старажытнаму звычаю аднаўляўся не на старым, а на іншым месцы. Гэта і магло паслужыць прычынай таго, што разышліся некалі суседнія і роднасныя па кораню назвы -- Лагоза, Лагожьск (Лагожеск). Урэшце і рака магла змяніць сваё рэчышча. Сённяшняя тапаграфія любой мясцовасці вельмі непадобная на тую, што была ў старажытнасці.

## КЛЕЦК

Клецк (у летапісах Клеческ, Кльчскъ, Кльчьскъ) -- старажытнае паселішча над ракой Лань, гняздо князёў Радзівілаў. У летапісах згадваецца пад 1127 і 1142 гадамі: "Посла князь Мстиславъ браю сваю на Кривиче четырми пути Вячеслава изъ Турова, Андрея изъ Володимера, Всеволодка изъ Гродна и Вячеслава изъ Кльсека". У XIV стагоддзі Клецк увайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Зараз гэта горад, раённы цэнтр Мінскай вобласці.

Паходжанне назвы Клецк звязваецца са словам клець, каморка, кладоўка, свіран, неапальваемае памяшканне сялянскай хаты, а таксама са словам клечь, бярозавыя парасткі (В. Жучкевіч).

Здаецца, бліжэй да ісціны другая версія, але яна да канца не распрацавана. Хутчэй за ўсё тут не прамая сувязь са словам клечь, а апасродкаваная -- праз гідронім. У такім выпадку трэба дапусціць, што некалі паселішча Клецк размяшчалася не на Лані, а на Клеч(ы) ці Клец(ы). У Старажытнай Русі горад часта называўся па імені не асноўнай ракі, а прытока, у вусці якога ён размяшчаўся. Рака высахла, згубілася, а назва паселішча перажыла стагоддзі. Магчымасць існавання такога гідроніма пацвярджае сучасная назва ракі Клец (па старых дакументах Клеца) на Смаленшчыне, якая ўпадае ў возера Каспля. На польскай тэрыторыі адзначаны шэраг водных і паселішчных назваў з гэтай асновай: Клеча Дольна, Клеча Сярэдняя, Клеча Горна -- вёскі над горным ручаём Клечаўка ў Вадовіцкім павеце, Клечаў -- возера і мястэчка над ім у Слупскім павеце, Клецка -- горад у Гніжнінскім павеце і інш.

Назва Клецк магла з'явіцца таксама вынікам усячэння прыметнікаў Клечаск(ае) ці Клецк(ае), утвораных ад нейкага слова з каранёвай часткай клеч- або клец-. У славянскіх мовах захавалася нямала такіх слоў. Параўн.: чэшск. klec -- нізкарослая сасна; србх. клечак -- зараснікі ядлоўцу; хмыз; бел. абл. клечанне -- зялёныя галінкі для ўпрыгажэння хаты на тройцу; рус. клеч -- сцябло лёну, хмелю; клеча -- зеляніна для ўпрыгажэння на царкоўныя святы; укр. клечання -- тое ж, што і рускае. Але гэта менш верагодна.

**Валянціна ЛЕМЦЮГОВА.**

**(Працяг будзе).**



**Праз Мінск прайшоў шлях міжнароднага супермарафона інвалідаў на калясках "Санкт-Пецярбург-Алматы". Яго дэвіз: "Грамадства -- для ўсіх". У ім прымаюць удзел прадстаўнікі ўсіх рэспублік былога СССР, а яго траса праходзіць праз тэрыторыі гэтых рэспублік.**

**У Мінску марафонцам была арганізавана кароткая ўрачыстая сустрэча на плошчы Незалежнасці.**

**З удзельнікамі супермарафона сустрэўся Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечыслаў Грыб.**

**НА ЗДЫМКУ:** у час сустрэчы.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1031. Падпісана да друку 18. 7.1994 г.**